25 сакавіка Дзень Волі

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Пра айца Канстанціна Байко → 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 12 (3228) Год LXIII | Беласток, 25 сакавіка 2018 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




## Першая Ўстаўная Грамата да Народаў Беларусі

Радзімая старонка наша апынулася ў новым цяжкім палажэньні. Дзе цяпер улада, што тут была, няведама. Мы стаімо перад тым, што край наш можа быць заняты нямецкім войскам.

Вы павінны ўзяць сваю долю ў свае ўласныя рукі.

Беларускі народ павінен зьдзейсьніць свае права на поўнае самавызначэньне, а нацыянальныя меншасьці на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію.

Права нацыяў павінна знайсьці сваё зьдзейсьненьне шляхам скліканьня на дэмакратычных пачатках **Устаноўчага Сойму**.

Але і да скліканьня Сойму ўся ўлада на Беларусі павінна належаць тым народам, якія на ёй жывуць.

**Выканаўчы Камітэт Рады Першага Ўсебеларускага Зьезду**, дадамы прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасьцяў, зьдзяйсьняючы заданьня Зьезду, абвяшчае сябе тымчасоваю ўладаю на Беларусі, паходзячаю да кіраваньня краем і данайхутчэйшага скліканьня **Ўсебеларускага Ўстаноўчага Сойму** на аснове агульнага права для ўсякага дарослага насяленьня, не рахуючыся з нацыянальнасьцю, рэлігіяй і полам.

Тымчасовую народную ўладу краю, якая паставіць сабе заданьня абароны і зацьвярджэньня здабыткаў рэвалюцыі, будзе зьдзейсьніваць створаны намі **Народны Сакратарыят Беларусі**, які ад гэтага дня пачаў выпаўняць свае абавязкі. Пэрсанальны склад Сакратарыяту будзе апублікаваны потым.

**Дадзена ў Менску-Беларускім**
**21 (8) лютага 1918 року**
**Выканаўчы Камітэт Рады**
**Ўсебеларускага Зьезду**

## Другая Ўстаўная Грамата да народаў Беларусі

У часе сусьветнай вайны, што бурыць адны моцныя дзяржавы і аслабляе другія, абудзілася Беларусь да дзяржаўнага жыцьця. Пасьля трох з палаваю вякоў няволі ізноў на ўвесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікі народны Збор — Усебеларускі Зьезд 15—17 сьнежня 1917 року, дбаючы аб долі Беларусі зацьвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад. Выпаўняючы волю Зьезду і баронячы дзяржаўныя правы народу, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду гэтак пастанаўляе аб дзяржаўным устрої і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў:

1. Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай.
2. Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаёмнага і прапарцыянальнага выбарчага права, не зважаючы на род, народнасьць і рэлігію.
3. Да часу, пакуль зьбярэцца Устаноўчы Сойм Беларусі, заканадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Усебеларускага Зьезду дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Беларусі.
4. Спаўняючая і адміністрацыйная ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ёю трымае адказ.
5. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; безумоўная вольнасьць сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня.
6. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.
7. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права ўласнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.
8. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўстанаўляецца найбольшы 8-гадзінны рабочы дзень.

Абвяшчаючы ўсе гэтыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларускай Народнай Рэспублікі, мы, Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду, абавязуемся пільнаваць законнага парадку жыцьця ў Рэспубліцы, сьцерагчы інтарэсаў усіх грамадзян і народаў Рэспублікі і захаваць правы і вольнасьці працоўнага люду. А таксама даложым усіх сілаў, каб склікаць у найбліжэйшым часе Ўстаноўчы Сойм Беларусі.

Усіх верных сыноў Беларускай Зямлі клічам памагчы нам ў цяжкой і адказнай нашай працы.

**Спаўняючы Камітэт Рады 1-га**
**Ўсебеларускага Зьезду**
**Выдана ў Менску-Беларускім 9 сакавіка 1918 року.**

## Трэцяя Ўстаўная Грамата Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

Год таму назад народы Беларусі разам з народамі Расеі скінулі ярмо расейскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь; не пытаючыся народу, ён кінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія.

Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край.

Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю вольнаю дзяржавай. Самі народы Беларусі ў асобе Ўстаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.

На моцы гэтага траціць сілу ўсе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае насьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі.

На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці ў зносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзець тую часьціну Берасьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілеўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гарадзеншчыны (з Горадняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленчшыны і сумежных часьцяў суседніх губэрняў, заселеных беларусамі.

Беларуская народная Рэспубліка зацьвярджае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаныя Ўстаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 року.

Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна дзяржаўны ідэал.

**Рада Беларускай Народнай Рэспублікі**
**Дана ў Менску-Беларускім 25 сакавіка 1918 року.**



# Сто год і доўгія леты

Некаторыя разумнікі кажуць, што для гісторыі сто гадоў гэта не тэрмін. А вось і не праўда! Панабіралася невукаў, і плятуць абы што. Сто гадоў ім не тэрмін! Сто гадоў, яны і ёсць сто гадоў. Што для гісторыі, што для чалавечага жыццёвага вымярэння, што для ўсёпаглынальнага бязмежнага космасу, дзе час працякае зусім не так, як на зямлі. Даказана, што не так. І тым не менш сто гадоў яны і ёсць сто гадоў, з якога боку іх не лічы. Хоць справа налева, хоць злева направа, усё адно будзе роўна сто.

Гэта як выпрабавальны тэрмін, такі, які даюць перад прыёмам на працу — каму тры месяцы, каму паўгода. Вытрымаў, не зганьбіўся, паказаў сябе станоўча, ну то працуеш далей. Не змог, або праявіў сябе пагана, ну то развітацца трэба. Некалі, як я служыў у войску, казалі, што для дзяўчыны выпрабавальны тэрмін два гады, або тры — столькі, колькі служыць яе хлопец. Калі не забылася і не здрадзіла, то жыццё з ёй варта пражыць разам. А колькі таго жыцця, ніхто не ведае, але пражыць можна. Колькі адведзена, столькі адведзена. Выпрабавальны тэрмін — тыя два, або тры гады — то прайшла, вось і ўсё.

А тут усе сто! Вось ён, выпрабавальны тэрмін для нацыі! Які яшчэ трэба, каб ганарыцца ёй?! Вытрымаць такі тэрмін можа толькі тая нацыя, якая хоча быць такой нацыяй, якой ёсць, і толькі такой, а не якой іншай. Ну, зразумела, што пацукі паўцякалі з судна і працягваюць уцякаць, непрыяцелі ўвесь час азіраюцца і чакаюць правакацый, ворагі таксама ёсць, як у кожнай вялікай нацыі. І як ім і належыць, тым ворагам, не спяць. А мы святкуем свае сто і ні на каго не звяртаем увагі. Ні на пацукоў, ні на непрыяцеляў, ні на ворагаў, ні на сяброў, якімі самі сабе толькі і з'яўляемся.

Мы ж за гэтыя сто гадоў прайшлі ўсё, што толькі можа прайсці нацыя. І раздзел, і аб'яднанне, і духоўны генацыд, і фізічны алкагалізм, зрэшты, і духоўны таксама, і халера ведае што. І вытрымалі ўсё, і засталіся самі сабой. І маем у сваёй гісторыі ўсё, што маюць самыя вялікія імперыі, нават сваю ўласную дыктатуру, як старадаўнія грамадзяне вялікай рымскай імперыі. Праўда ў тых іхны дыктатар аднойчы Рым спаліў, дзеля натхнення. Мы таксама маглі б спаліць Рым, але не хочам паўтарацца. Гэта ўжо будзе не смешна. Гэта наш усходні сусед палохае свет, што можа спаліць той Рым, а заадно і ўсе астатнія гарады. Вось ён прыклад няспелаcці нацыі. Яны, каб заявіць пра сябе, на плагіят гатовы пайсці. Нам жа гэтага не трэба. У нас ёсць нашы сто, і яшчэ некалькі разоў па сто да гэтых ста. І ўсё! Мы нацыя і будзем святкаваць сваё свята. Нават наша ўлада, якая забараняе ўсё і заўсёды (забава ў іх такая ёсць усё забараняць), гэтым разам сказала: „Гуляйце, хлопцы! Толькі не перабіце адзін другога". І чаму б нам не гуляць?! Сто гадоў гэта не сто грам. Гэта сто гадоў!

Дарэчы, крыху пра сто грам і пра веліч нацыі. Зранку заляцеў я ў піўнушку палячыцца, а там ужо сядзяць раннія пташкі. Лечацца, здароўе папраўляюць, гамоняць пра нешта... Дай, думаю, паслухаю пра што. А яны то Трамп, то Тэрэза Мэй, зноў Тэрэза Мэй, зноў Трамп. Зрэдку кажуць Меркель. А пра Пуціна ні слова. Хоць учора ў таго былі прэзідэнцкія выбары і ў Гародні вялікі білборд стаяў з тае нагоды, каб не забыліся, хто ў суседзяў кіраўнік. Але нас гэта не цікавіць! Трамп — іншая справа. А ў астатніх маштаб не той, каб мы пра іх гаварылі. Мы б і пра Трампа не гаварылі б, але ж пра нешта трэба. Не сядзець жа моўчкі. Мы ж не алкаголікі. Мы палячыцца прыйшлі, а не напіцца.

А нехта кажа, што сто гадоў гэта не тэрмін. Тэрмін, ды яшчэ які! І яго, каб адсвяткаваць, ужо самі з сабой пасварыліся. Хто за артыстаў, хто за ідэю, а хто і проста каб пасварыцца. З іншымі сварыцца зноў жа маштаб не той. А са сваімі гэта тэма. Мы ж вялікая нацыя. Таму і паводзім сябе адпаведна. Сварымся толькі з вялікімі, з самімі сабой, значыць.

Мы ж нават на святы выкрыкваем і „Доўгія леты" і „Сто год". Каб не памыліцца, бо невядома, што больш. І правільна робім.

**Са святам Вас, дарагія беларусы!!!**
**Доўгія леты!!!**
**Сто год!!!**
**Жыве Беларусь!!!**

Віктар САЗОНАЎ

# Missio canonica?

Справа медыйна ўжо адзваніла, але гэта не азначае, што заканадаўчыя працы над ёю былі адкладзены да грэчаскіх календ (*ad calendas graecas*). Рана ці пазней выплыве яна на сеймавым галасаванні і воляй ПіСаўскай парламенцкай большасці будзе адобрана на амін, хаця супраць Канкардату паміж Польскай Дзяржавай і Касцёлам Але сёння Дзяржава гэта ПіС. Ну, а Касцёл?

Я задаю пытанне дадаткова, і ўжо вяртаюся да сутнасці. Вось з датай 23 лютага 2018 г. праект папраўкі да рэгулявання «аб справе ўмоў і спосабе арганізацыі навукі і ўроках рэлігіі ў дзяржаўных школах і дзіцячых садках», з'явіўся на сайце Міністэрства нацыянальнай адукацыі і, нягледзячы на шматлікія спрэчкі, якія адразу ж выклікаў, не захацеў знікнуць. Не было гэта неінвазійнае апытанне, даследуючае спантанныя імпульсы грамадскай думкі, але пачатак хірургічнай аперацыі запланаванай і праведзенай супраць волі грамадскасці з дапамогай глыбокага разрэзу скальпелем. Праект міністр Залеўскай змяшчае дзве папраўкі да існага заканадаўства. На самой справе адна выклікае асаблівую трывогу. Да гэтага часу — у адпаведнасці з артыкулам 7 Палажэння ад 1992 года — выкладчык рэлігіі мог быць уключаны ў школьны савет, але не мог «прыняць абавязак школьнага выхавацеля». Міністр хоча змяніць гэтую сітуацыю.

Мяне здзіўляе маўчанне над гэтай недарэчнай задумай. Праўда, яна выклікала буру ў сродках масавай інфармацыі, але нядоўгую. Сёння ні слова пра гэта не заікнуцца любыя СМІ — ні апазіцыйныя, ні праўладныя. А тут трэба ўвесь час заклікаць да пратэсту, у барабаны біць, трывожыць грамадскую думку, незалежна ад палітычных сімпатый. Паколькі разрэз скальпелем гэта факт, хоць хворы не хворы, а палажэнне канкардату дакладна вызначае, чым з'яўляецца дзяржава, а чым яе душа. Тым не менш, ёсць тыя, для якіх гэтага замала. Душа дзяржавы здаецца быць для іх важнейшай ад самой дзяржавы. Рэлігійнасць — ад веры.

Рэлігійнасць і вера па прыродзе рэчаў павінны быць узаемна празрыстыя. На жаль, усё больш і больш губляюць яны сваю празрыстасць. У мяне нават склалася ўражанне, што ў постмадэрнісцкім свеце рэлятывістычных каштоўнасцей, панацыяў і зместу яны сутыкаюцца адна з адной у крайняй апазіцыі. Толькі што рэлігійнасць узніклая з веры гэта проста манекен. Дзяржаўная рэлігійнасцьне-абавязкова задавальняе ўмовы веры, але, безумоўна, адпавядае ўмовам для аўтарытарнай улады. На маю думку, такая ўлада мае тэндэнцыю да паганства і незалежна ад таго, ці ўдзельнічае ў ёй сам Касцёл. Ісус не без падстаў загадаў аддзяліць боскае ад імператарскага. Але, як звычайна, гэта крык у пустыні. Па логіцы постмадэрнісцкага мыслення, на якім апіраецца філасофія цяперашняй улады, праўда не роўная ісціне. Таму галоўны стратэг ПіС Яраслаў Качынскі так лёгка выкарыстоўвае тэрмін «сапраўдная праўда», у адрозненне ад самой праўды. Хіба праўда, адмаўляючая іншую праўду надалей паказвае нефальшывасць іх абедзвюх? Да нядаўняга часу праўда пярэчыла хлусні. І ўсё было ясна. Сёння, сапраўды, хлусня прымае форму паўпраўды, недапраўды, каляпраўды, самай сапраўднай праўды... Хто ў гэтым разбярэцца?

Ці ксёндз-катэхет як педагог-выхавацель будзе паважаць канкардатны раздзел Касцёла і дзяржавы? У рэшце рэшт, аб найме на працу настаўніка закону Божага вырашае г.зв. *missio canonica*, іначай «імяннное пісьмовае накіраванне ў школу кампетэнтным біскупам». Так вось катэхеты атрымліваюць місію ад Касцёла і, такім чынам, кантроль над імі з боку дзяржавы, а непасрэдна дырэктараў школ і Міністэрства адукацыі дэ-факта адменены. Падобна на тое, што міністр Залеўская ўвайшла ў ролю Сатаны-Спакусніка... Спакушаецца... Касцёл. Ці гэта па яго ініцыятыве рэлігійны змест усё часцей узаемадзейнічае з праграмай заняткаў з іншых прадметаў? Ці можа гэта лішак пустой рэлігійнасці апарату ўлады? Як лёгка ўзяць на сябе ролю рымска-каталіцкага фармавальніка малалетніх душ. Аднак паўсюдным школьным абавязкам ахопліваюцца ўсе дзеці да 15 гадоў, і тыя з каталіцкіх сем'яў, а таксама праваслаўныя і з іншых канфесій. Аб свецкіх ці бесканфесійных сем'ях, ці нават прапаведуючых атэізм — толькі прыгадаю. Іхнія дзеці не маюць лёгка ў школах. Сёння вядома, што яны там падвяргаюцца дыскрымінацыі, таму што дыскрымінуецца Дзяржава ў дзяржаве кіраванай ПіС. Якая ў тым роля Касцёла? І хто каму напісаў гэтую ролю?

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Быць Нам Разам — 100 гадоў БНР

Заўсёды пры нагодзе чарговых юбілеяў чалавек пачынае раптам упікаць сябе за тое, што часамі безрэфлексіўна не задумваемся над найважнейшым выклікам Беларускай Народнай Рэспублікі. На маю думку, менавіта адчуванне, патрэба і абавязак быць народу разам на зломе 1917 і 1918 гадоў прывялі і да Акту 25 Сакавіка, і да аб'яўлення незалежнай беларускай дзяржавы. Тады ў цяжкія гады Першай сусветнай вайны і пры хвалі чарговых рэвалюцый і пераваротаў над індывідуальным змаганнем за звычайнае выжыванне ў нашых продкаў з'явілася адказнасць за лёс усіх беларусаў і этнічнай тэрыторыі, якую яны насялялі не толькі як ахвяры, але менавіта як гаспадары. Тэрыторыя роднай зямлі была тады пазначана выгнаннем мірных людзей у бежанства, стаптаная чужаземнымі арміямі ў імя іхніх палітычных інтарэсаў. Крыжы на беларускай зямлі, спаленыя і расцярушаныя сялянскія і гарадскія сядзібы былі сведкамі нядаўняга чалавечага жыцця і гаспадарнасці яе насельніцтва. Разбуральная вайна раніла і крывёю аблівала звычайную, сялянскую душу нашых продкаў. Спакойна на гэта не маглі глядзець тадышнія беларускія культурныя і палітычныя дзеячы. Калі ўлічым да гэтага дзясяткі тысяч адчайных беларускіх жаўнераў, якія ваявалі і гінулі за чужынскія, імперскія інтарэсы, то больш зразумелым нам будзе непазбежная патрэба згуртавацца ўсіх разам менавіта дзеля нацыянальнага выжывання. Для ўсіх стала відавочным, а затым чарговым, лагічным крокам стала думанне, што той зброяй і адначасова шчытом з'яўляецца толькі ўласная дзяржава. Снежаньскі Усебеларускі з'езд 1917 года на працягу некалькіх месяцаў здзейсніў паскораную эвалюцыю беларускай палітычнай думкі — ад аўтаноміі ў рамках расейскай імперыі да незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. І ў гэтым менавіта заключаецца самая вялікая і вечная перамога айцоў-заснавальнікаў беларускай дзяржаўнасці. За тое ім усім у круглую, юбілейную дату належыцца асаблівы ўспамін і пашана. Менавіта прыклад БНР з'яўляецца яркім доказам таго, што сапраўдны гістарычны памяці нельга высекчы тапаром і пяром ды прысыпаць попелам з-за якога не прабіваюцца парасткі палітычнай і чалавечай праўды. Так як нашай Багдановічаўскай Пагоні не разбіць, не спыніць, не стрымаць. А гарантам нацыянальнага выжывання была, ёсць і будзе заўсёды палітычна-эканамічна-культурная незалежнасць краіны.

Шкада, што пра самую простую фармуліроўку кожнай дзяржаўнай палітыкі цягам апошніх дваццаці гадоў забываліся часта беларускія ўлады. То менавіта на святкуючых Дзень Волі людзей насылалі яны атрады ўзброеных міліцыянтаў, а сотні, калі не тысячы людзей за тое, што толькі любяць Беларусь, атрымлівала штрафы і траплялі за краты. І, на жаль, пралівалася таксама кроў, якая наш бел-чырвона-белы сцяг напаўняла трагічным фонам. Людская кроў на бінтах, рубашках, тварах. Міліцэйская дубінка, якая бязлітасна адлупцоўвае ўсіх ад маладога да старога толькі за тое, што схацелі быць яны разам дзеля ідэі і сімвалаў Беларускай Народнай Рэспублікі. Пра гэта таксама мы павінны далей памятаць, калі хочам гаварыць пра жыццё ў рэальнай палітыцы.

Дзякуй, аднак, Богу, што сотыя ўгодкі Акту 25 Сакавіка прынеслі змену падыходу з боку ўлады да сёлетніх святкаванняў. У многіх гарадах дазволеныя мерапрыемствы з нацыянальнай сімволікай. Гэта таксама станоўчы крок на шляху да яднання, а не разбурання вакол працягласці і легітымнасці гістарычнай дзяржаўнасці. А яна цяпер да зарэзу патрэбная кіруючым колам краіны. Сёлетнія святкаванні адбываюцца на фоне прэзідэнцкіх выбараў у Расеі, дзе Уладзімір Пуцін пасля чарговай элегантнай перамогі пачынае ўсур'ёз разбірацца з беларускім пытаннем, значыць, з кіраўніком суседняй дзяржавы. Ну і, зразумела, сусветная напружанасць уключна з украінска-расейскай вайной патрабуе ад лідараў беларускай дзяржавы адказнасці за ўладу не толькі цяпер і зараз — а не пасля нас, то хаця б і патоп. Таму запавет стагадовай даўнасці **Быць Нам Разам** павінен стаць арыенцірам для ўсіх беларусаў, каб чарговыя гадавіны Акту 25 Сакавіка 1918 года можна было святкаваць у незалежнай і дэмакратычнай Рэспубліцы Беларусь.

Яўген ВАПА

# Бежанства і міжваенны перыяд на Бельшчыне і Гайнаўшчыне

Гарадская публічная бібліятэка імя Тадэвуша Ракавецкага ў Гайнаўцы ў канцы лютага наладзіла сустрэчу з Барбарай Гаральчук на тэму бежанства і міжваеннага перыяду на Бельшчыне і Гайнаўшчыне, прымеркаваную да прамоцыі яе двух кніжак — «Надзея ажно па небакрай» і «Мёд», у якой апісаны згаданыя перыяды. Выказванні



госці і дыскусія тычыліся перыядаў, калі праваслаўныя жыхары Беласточчыны ў 1915 годзе масава падаліся ў бежанства і пасля вярталіся на знішчаныя гаспадаркі і адбудоўвалі іх увесь міжваенны перыяд. 25 сакавіка мінае 100 гадоў з абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, а 11 лістапада адбудуцца святкаванні сотых угодкаў незалежнасці Польшчы і гэтыя дзве падзеі стагадовай даўнасці тычацца Беласточчыны і герояў кніжак Барбары Гаральчук.

■ Госця спаткання Барбара Гаральчук (злева) і дырэктар бібліятэкі Ала Грыц

Сустрэча прыцягнула ў гарадскую бібліятэку шмат людзей, паколькі тэма спаткання зацікавіла гайнавян, продкі якіх зведалі бежанства, а пасля вяртання дамоў змагаліся з холадам і голадам, што апісвае Барбара Гаральчук у сваіх кніжках. На спатканне прыйшлі таксама людзі, продкі якіх жылі ў іншых рэгіёнах Польшчы, каб больш даведацца пра гісторыю Гайнаўшчыны, на якой зараз жывуць. Сабраных прывітала дырэктар Гарадской публічнай бібліятэкі Ала Грыц і распавяла пра госцю спаткання Барбару Гаральчук, ураджэнку Мокрага, выпускніцу Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Дзяцінства і юнацтва аўтарка правяла ў роднай падбельскай вёсцы і зараз ахвотна туды вяртаецца. Дырэктар Ала Грыц адзначыла ўважлівае і скрупулёзнае апісанне складанага перыяду нашай гісторыі — бежанства і выжывання пасля вяртання на радзіму. Трагедыя праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны, якое масава выехала ў бежанства, апісана ў аповесці «Надзея ажно па небакрай», а міжваенны перыяд на Беласточчыне апісаны ў кніжцы «Мёд».

— Я не рабіла аналізу бежанства і жыцця пасля вяртання дамоў на падставе архіўных матэрыялаў, але выкарыстала гісторыю сям'і маёй бабулі Кацярыны і расказы сведак тадышніх здарэнняў, — сказала Барбара Гаральчук. — Мая бабуля Кацярына ўспамінала, як цяжка было ў бежанстве і пасля вяртання на радзіму. Прытым дабаўляла, што цяпер добра жывецца, але не ацэньваем належным чынам таго дабра, што маем.

З Мокрага не паехалі ў бежанства толькі чатыры сям'і і некаторыя самыя старэйшыя жыхары, якія рашыліся дажываць дома. Трагедыю бежанства Барбара Гаральчук апісала перш за ўсё на аснове сям'і Філіпюкоў з Мокрага, якая пасля бадзяння па землях Расійскай імперыі жыла ў Казані і іншых мясцовасцях Расіі. Аўтарка многа піша аб жыцці ў Міхалаўцы, аб пераадольванні цяжкасцей і дапамозе мясцовага насельніцтва. Падчас вяртання дамоў продкі аўтаркі падарожнічалі ўжо па савецкай, а пасля па польскай дзяржавах, часта не разумеючы новых парадкаў у абедзвюх краінах.

— Мая прабабуля Марыя без мужа, які памёр, а толькі з дачкой Кацяй, маёй бабуляй і сынам, змагла столькі падарожнічаць па Расіі і яшчэ вярнуцца дамоў, дзе амаль усё было знішчана і трэба было адбудоўваць. Мая бабуля Каця загартавалася падчас бежанства, што дапамагло ёй пераадолець цяжкасці ў бедны міжваенны час. Вярнуўшыся з бежанства за паўгода працы каля Шапятова зарабіла бабуля авечку і пуд ячменю, якія ўдалося ёй перапраўсць дамоў, бо ў іншых здаралася, што такі заработак страчвалі ў дарозе, — гаварыла Барбара Гаральчук.

У бібліятэцы адбылася перш за ўсё прамоцыя выдадзенай год таму кніжкі «Мёд», у якой апісаны міжваенны перыяд.

— Штуршком для напісання кніжкі «Мёд» было здарэнне на гары Грабарцы, калі адна жанчына папракнула мяне, што ў кніжцы «Надзея ажно па небакрай», апісваючы бежанства, я празмерна ўсхваляю царскія парадкі. Заявіла яна, што добрае жыццё пачалося, калі Юзаф Пілсудскі кіраваў Польшчай і параўнала гэты перыяд да прыказкі з малаком і мёдам, якая характарызуе заможнае жыццё. Я падумала, што жыццё можа і было мёдам для часткі жыхароў Польшчы, але не для нашых продкаў, якія нядаўна вярнуліся з бежанства і якім у незалежнай польскай дзяржаве жылося вельмі бедна. Гэта натхніла мяне да напісання чарговай кніжкі з супярэчлівым загалоўкам «Мёд», паколькі жыццё пасля вяртання з бежанства было змаганнем за выжыванне, адбудовай знішчаных гаспадарак і перш за ўсё здабываннем харчоў. Маёй сям'і, якая толькі вярнулася з бежанства, складана было зразумець новыя парадкі ў Польшчы, што я апісала ў кніжцы. Больш чым тры пакаленні нашых продкаў жылі ў расійскай дзяржаве, а тут узніклі новыя структуры польскай дзяржавы. З часам мёд паявіўся ў багатых жыхароў, але покі нашы продкі крыху адбудаваліся, то ўжо ўспыхнула Другая сусветная вайна, — заявіла спадарыня Барбара.

У Польшчы ў міжваенны час трэцюю частку жыхароў састаўлялі нацыянальныя меншасці — украінцы, яўрэі, беларусы, расіяне, немцы, цыганы і іншыя нацыі і розныя былі да іх адносіны ўлад.

— Калі немцы ў 1915 і 1916 гадах пачалі будаваць у Гайнаўцы фабрыкі, сталі ў іх і пры масавай высечцы Белавежскай пушчы працаваць таксама людзі з навакольных вёсак, але іх было мала, бо пераважная колькасць насельніцтва выехала ў бежанства. У сваіх кніжках я прывяла перш за ўсё расказы маіх сямейнікаў, сваякоў і іншых асоб. Запісвала таксама пазнейшыя выказванні старонніх асоб. Напрыклад, адна мая суразмоўца асабліва моцна злавалася, што ў міжваенны час не хацелі прыняць на працу лесарубам у Белавежскай пушчы яе бацьку, калі прымаліся асобы, якія прыязджалі ў Гайнаўку з Польшчы, — гаварыла спадарыня Барбара.

Удзельнікі дыскусіі звярнулі ўвагу на багаты змест кніжак і лёгкасць апісання Барбарай Гаральчук мінулага. Дыскусія сышла таксама на пасляваенны перыяд на Беласточчыне, калі народная ўлада абкладвала сялян высокімі падаткамі, каб прымусіць іх уступаць у калгасы. Калі падчас дыскусіі прагучаў пасляваенны лозунг «Увесь народ адбудоўвае сваю сталіцу», паявіліся выказванні, што адбудова Варшавы таксама адбывалася пад прымусам. На адбудову Варшавы пасля ваенных знішчэнняў, перш за ўсё ў час Варшаўскага паўстання таксама з нашых сялян сцягваліся дадатковыя вялікія падаткі.

— Бачу я вялікую розніцу паміж пакаленнем нашых бабуль, якія перажылі вялікае гора падчас бежанства і цяжка працавалі ў міжваенны час, калі трэба было адбудоўваць свае дамы і гаспадаркі, а сённяшняй моладдзю, якая нават патрабуе ад бацькоў забяспечыць іх жыллём, каб адразу маглі зарабляць на свае бягучыя патрэбы. Трэба намагацца, каб маладыя асобы знаёміліся са складаным мінулым іх продкаў у бежанстве і пазней. Тады наша моладзь будзе больш адкрытая на іншых людзей, сваіх суседзяў, будзе з большай пакорай глядзець у будучыню і належным чынам ацэньваць працу сваіх продкаў. Моладзь павінна ведаць кім мы з'яўляемся і якая была наша гісторыя. Калі маладыя асобы не будуць ведаць свайго мінулага і сваёй гісторыі, будуць як тыя дрэвы з падсечанымі каранямі, — сказала Барбара Гаральчук, якая лічыць сябе тутэйшай беларускай.

У час дыскусіі згадвалася, што перад Другой сусветнай вайной у Бельску-Падляшскім, Орлі і многіх іншых мясцовасцях Бельшчыны і Гайнаўшчыны значную колькасць насельніцтва складалі яўрэі, якія ў час нямецкай акупацыі амаль усе загінулі. Перш за ўсё ўратаваліся тыя яўрэі, якія раней выехалі або іх вывезлі ў Савецкі Саюз або былі прызваны ў савецкую армію і з ёй адступіліся перад фронтам.

— Сяброўка сказала мне, што нядаўна даведалася аб сваім яўрэйскім паходжанні і разгубілася ад гэтай інфармацыі. Спытала ў мяне: «Бася, я не ведаю, кім я ёсць?». Напэўна на нашай тэрыторыі ёсць больш такіх мяшаных сямей, таксама з асобамі яўрэйскага паходжання. Гэта натхніла мяне, каб напісаць чарговую кніжку аб продках маёй сяброўкі і складаных ваенных і пасляваенных час, у якім прыйшлося ім жыць на нашай зямлі. Мама маёй сяброўкі была ўзятая з арлянскага гета і адаптаваная праваслаўнай сям'ёй. Толькі перад смерцю сказала аб сваім жыдоўскім паходжанні сваёй дачцэ, а маёй сяброўцы, выхаванай у праваслаўнай сям'і, — заявіла Барбара Гаральчук, адказваючы на пытанне аб планах на будучыню.

Мяркуецца, што да Другой сусветнай вайны ў межах Польшчы жыло каля трох з паловай мільёна яўрэяў. Адразу пасля вайны ў Польшчы засталося іх каля двухсот тысяч. Зараз у нашай краіне жыве каля дваццаці тысяч яўрэяў, хаця складана зрабіць дакладны падлік.

Ад дырэктар бібліятэкі Алы Грыц спадарыня Барбара Гаральчук атрымала падарунак. Аўтарка падпісвала таксама свае кніжкі, якія ахвотна куплялі гайнавяне.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Дрэвы паміраюць стоячы

Каля паўсотні старых са шматлікімі гнёздамі амялы таполяў стаіць пры гравійцы з Гарадзіска ў Плянту Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. З сухіх дрэў падаюць у прыдарожныя равы вялікія і малыя галіны. Пяць тоўстых дрэў ужо пераламаў напорысты вецер.

Ніхто не дамагаецца ў войта, каб ссячы сухія таполі паабапал дарог у Плянтаўскім салэцтве. Бачаць жа гэта гмінная радная і солтыс. Але ўсё бывае да пары. У зімні ветраны дзень ці ў такую ж ноч сухія таполі і іх галіны ўпадуць на дарогу. Перш за ўсё гэта небяспека для пражываючых тут паўтары сотні чалавек, якія ездзяць на аўтамабілях і ходзяць па справах ва ўстановы ў Нараўцы, у тым ліку ў гмінную ўправу, на пошту і ў кааператыўны банк. Яны таксама часта робяць пакупкі ў нараўчанскай прадуктовай краме «Аргелян». Варта дадаць, што ў гэтым вялікім магазіне пры адной з галоўных вуліц у Нараўцы заўсёды ёсць шмат экзэмпляраў свежага нумара нашага беларускага штотыднёвіка «Ніва». Ён на паліцы ў відным месцы сярод іншых перш за ўсё польскамоўных газет і часопісаў. Тут яго найбольш купляюць.

**(яц)**

## Вестуны вясны

Першых жураўлёў пачуў я пасля поўдня 11 сакавіка гэтага года (стаяў пахмурны цёплы дзень) над зарасніка-мі вербалозу на левым беразе рэчкі Нараўкі каля Сушчага Барка Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Вёсачка гэтая з 16 жыхарамі знаходзіцца на ўскраіне Белавежскай пушчы. Тут на заліўных, дрыгвяністых лугах расце густы чарот. Жураўлі сваім крыкам напоўнілі ўсё наваколле Старога Ляўкова, Новага Ляўкова і Плянты. Гэтыя вестуны вясны прыляцелі таксама на лужок з зарослай сажалкай пасярод лесу непадалёк невялікай вёскі Крыніца (у ёй пражывае 21 чалавек). Тут ужо пабеглі па лесе ручайкі да прытокаў рэчкі Нараўкі.

Прыляцелі першыя вестуны вясны і стала больш прыемна і радасна ў сёлах і ў маўклівых зімой лясах. **(яц)**

# Помнік бежанцам






Канстанцін Масальскі



Аляксей Мулярчык

**У Беластоку завязаўся Камітэт пабудовы помніка ахвярам бежанства перыяду Першай сусветнай вайны. Старшынёй камітэта абраны а. Анатоль Федарук, настаяцель Праваслаўнага прыхода ў Дайлідах, яго намеснікам Аляксей Мулярчык. У складзе Камітэта таксама нястомны прапагандыст найважнейшых падзей нашай мінуўшчыны Канстанцін Масальскі.**

Помнік ахвярам бежанства і вяртаючым праваслаўе ў ХХ стагоддзі на Падляшскай зямлі — такая яго поўная назва — мае быць узведзены ў вобрубе могілак пры царкве св. Ільі ў Дайлідах. Мае ён быць сітуаваны далей ад царквы, бо бежанцы выязджалі далёка. Праект помніка апрацаваў архітэктар Міхал Балаш. Мае гэта быць валун, накрыты дашком і звенчаны крыжом. На ім знойдуцца надпісы на некалькіх мовах, так аўтахтонных, як і міжнароднага абсягу. Валун ужо знойдзены, трэба яго толькі прывезці на месца і адпаведна ўсталяваць.

Ініцыятары пабудовы помніка ахвярам бежанства так абгрунтоўваюць задуму яго пабудовы:

— Пасля амаль соткі гадоў мы абавязаны прыгадваць тадышні час, каб у нашай свядомасці захавалася памяць аб тых як жа цяжкіх перажываннях. З гэтага выплыла ідэя пабудовы помніка, увекавечваючага тыя ўсе ахвяры перыяду бежанства ды прысвяціць яго таксама ўсім тым, якія адраджалі нашу святую праваслаўную веру на Падляшскай зямлі. (...) На жаль, тыя падзеі пакінулі таксама пятно на іх штодзённым жыцці. Значная частка грамадства, зберагаючы сваё жыццё, была прымушана падацца ў бадзянне, якое часта станавілася іх цяжкай і далёкай дарогай. Дарогай, з якой не ўсе вярнуліся, астаючыся там, куды закінуў іх лёс. Лёс, хаця не быў спрыяльны, а абставіны здаваліся безнадзейнымі, аднак вызвалялі ў вяртаючыхся сілы і пачуццё годнасці ў ходзе адбудовы свайго жыцця. Праваслаўнае насельніцтва, церпячы цяжкасці, намагалася адшукаць сваё месца на сваёй зямлі, бо гэта была іх зямля, а яны былі тут спрадвечна.

Для пабудовы помніка ахвярам бежанства спатрэбіцца каля 30-40 тысяч злотаў. Таму сябры Камітэта звяртаюцца за фінансавай падтрымкай гэтай ініцыятывы; узносы на пабудову помніка просяць пералічваць на рахунак у **PKO BP nr 97 1020 1332 0000 1202 1088 0781**.

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Будучыня водаправодаў і каналізацыі ў Арлянскай гміне

У мінулым 2017 годзе па прапанове войта арлянскя Гмінная рада прыняла пастанову аб зніжэнні ставак за спажыванне вады з 2,10 зл. на 1,90 зл. (нета). Натуральна, што людзі заўсёды цешацца, калі стаўкі падаткаў не павышаюцца, а яшчэ больш радасна, калі яны падаюць. І вось на пасяджэнні самаўрадавай камісіі 31 студзеня я, як радны, пачуў ад войта, што маюць наступіць змены і стаўкі за спажыванне вады будуць самаўрадам вызначацца недзе ў вярхах.

На сесіі арлянскай Гміннай рады 1 лютага радныя прынялі пастанову ў справе шматгадовага плана развіцця і мадэрнізацыі водаправоднага і каналізацыйнага абсталявання ў 2018-2022 гадах.

З дадатку да пастановы вынікае, што на тэрыторыі Арлянскай гміны водаправоднымі паслугамі карыстаецца амаль сто адсоткаў насельніцтва, каналізацыйнымі паслугамі — 25-30% жыхароў (галоўным чынам у самой Орлі, вельмі мала ў Дыдулях).

У гміне наступнае водаправоднае і каналізацыйнае абсталяванне:

- водазабор з устаноўкай водаачысткі ў Орлі прадукцыйнасцю ў 15,35 кубаметраў на гадзіну ($m^3/h$);
- водазабор у Алекшах прадукцыйнасцю ў 18,46 $m^3/h$;
- ачышчальня камунальных сцёкаў у Орлі з прапускной здольнасцю ў 55 $m^3/24h$;
- ачышчальня камунальных сцёкаў у Дыдулях з прапускной здольнасцю ў 15 $m^3/24h$;
- перапампоўня санітарных сцёкаў у Орлі — 4 штукі;
- даўжыня водаправоднай сеткі з водазабора ў Орлі 57,44 км і 106,07 км з водазабора ў Алекшах;
- даўжыня каналізацыйнай сеткі ў Орлі і ў пасёлку многамясейных блокаў у Дыдулях 10,26 км.

**Мерапрыемствы**

У 2018-2022гадах плануецца:

- у 2018 годзе — разбудова і перабудова біялагічнай ачышчальні сцёкаў у Орлі. Інвестыцыя распачатая ў 2017 годзе, планаванае заканчэнне ў 2018 годзе. У 2018 годзе прадбачваюцца выдаткі за 1836 тысяч злотаў брута;
- у 2019 годзе — разбудова і перабудова ўстаноўкі водаачысткі і перабудова водаправоднай сеткі па вуліцы Партызантаў у Орлі. Вартасць работ складзе больш за 2 мільёны злотаў;
- у 2020 годзе — разбудова і перабудова водазабора ў Алекшах; вартасць прац звыш 1684 тысяч злотаў.;
- у 2021-2022 гадах — будова каналізацыйнай і санітарнай сетак у Дыдулях; прадбачаны кошт каля паўтара мільёна злотаў.

Мяркуецца, што вышэйназваныя мерапрыемствы ў 2018-2022 гадах будуць фінансавацца галоўным чынам з уласных сродкаў Арлянскай гміны. Калі будзе аб'яўлены набор заявак на магчымае дафінансаванне гэтых мерапрыемстваў з еўрасаюзных фондаў, то гміна будзе хадайнічаць за атрыманне такіх сродкаў.

**Рацыяналізацыя спажывання вады і адводу сцёкаў**

Арлянская гміна абавязана запэўніць пастаянную пастаўку адпаведнай якасці вады і надзейны адвод сцёкаў. Гэта тэхналагічна манітараваныя працэсы, якасць вады перыядычна даследуецца, таксама кантралюецца якасць ачышчаных сцёкаў.

Гміна будзе надалей запускаць новыя працэсы і тэхналогіі дзеля паляпшэння якасці вады і абмежавання колькасці яе спажыцця ў ходзе тэхналагічных працэсаў. Рацыяналізацыю спажыцця вады ў хатніх гаспадарках пакажуць вадамеры.

Водаправодная сетка і гідравузлы патрабуюць пастаянных рамонтаў, мадэрнізацыі і перабудовы дзеля прадухілення страт ад няшчыльнасці і абмежавання яе аварыйнасці.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# На Падляшшы я свой

«Новае / Найлепшае» - пад такім загалоўкам прайшоў у Беластоку канцэрт **Зміцера Вайцюшкевіча**. Вядомы спявак, кампазітар і мультыінструменталіст выступіў перад падляшскай публікай з новымі і даўно не чутымі песнямі. Музыку, які часта выступае на Беласточчыне, і гэтым разам сустрэла поўная зала людзей.

**«Ніва»: — Новае, таму лепшыя песні?**

**Зміцер Вайцюшкевіч:** — Так, зараз спяваю тыя, якія трэба даставаць з нейкіх доўгіх шуфлядаў.

**— Разумею, ужо самі песні, словы песень паўсталі раней?**

— З песнямі па-рознаму бывае. Некаторыя нараджаюцца доўга, некалькі гадоў. Некаторыя ўжо пяць гадоў не гучалі. Новае-лепшае, тут такая гульня слоў: новае і лепшае, старое, а можа быць новае і лепшае з новага. Так што можна як хочаш глядзець.

**— Думаю, што для падляшскай публікі ўсё-такі не надаелі Вашы канцэрты і нават тыя самыя вядомыя песні. Вы даволі чаканы вакаліст на Падляшшы.**

— Так, я заўважыў. Для мяне не сціпла пра гэта казаць, але я ўдзячны за тое, што мяне тут любяць, памятаюць. Нягледзячы на тое, што я і так часта тут бываю, у ваколіцах Беластока, на гэтым канцэрце будуць людзі.

**— Што такое адметнае ў падляшскай публіцы? Вам зараз таксама дазволілі выступаць на роднай Беларусі.**

— Тут не трэба даказваць, што ты свой. А на Беларусі трэба пра гэта казаць, як мінімум прыехаць у новы горад. А на Беласточчыне я ўжо даўно, тут і сапраўды як сынок, ці брат, проста свой. Бывае так, што тут прасцей дамовіцца, чым на Беларусі. Не паўсюль на Беларусі, у Мінску я таксама свой, але Беларусь... Ужо за маё жыццё другая была забарона, таму ўвесь час тыя крылы спрабуеш расправіць і хрэсь! (*смех*) Па крылах. І трэба зноў усё пачынаць спачатку. Тут я свой і адчуваю гэта. Гэта не сакрэт, што ў Польшчы, далей там за Варшаву, трэба доўга казаць, што гэта Беларусь, і яна не заўсёды бывае там у трэндзе. І гэта нармальнае ў сэнсе, што ў палякаў хапае сваіх пытанняў, праблем і зорак. А тут прыехаў яшчэ нейкі вусаты, барадаты і нешта там скрыпіць па-беларуску. У любым выпадку Беласточчына якраз такая мая айчына.





**— Усё-такі чаканы тур па Беларусі гэта для Вас свайго роду выклік?**

— Вельмі хутка забываецца. Ён ужо пачаўся, ужо прайшоў другі ці трэці канцэрт і яны вельмі цяжка арганізоўваюцца, таму што начальства на месцах, скажам так, пабойваецца. Такая інертная сістэма, якая марудна закручвалася, а зараз марудна раскручваецца. Трэба зноў спачатку прыходзіць, знаёміцца, расказваць, паказваць і так далей. Проста мы не маем іншага выхаду, каб там капрызнічаць ці там крыўдзіцца на лёс і на гэтых людзей. Я ўсё гэта разумею і спакойна да гэтага стаўлюся.

**— Усё-такі Дзень Волі будзеце сустракаць са сваімі заўзятарамі з Польшчы? Наколькі вядома, дасце канцэрт у Варшаве.**

— Так, у Польскім тэатры. Я быў вельмі рады такой магчымасці. Канешне, немагчыма разарвацца, хацелася б выступіць яшчэ і ў Мінску, і ў Гродне, і ў Брэсце адначасова. Каб можна было сябе так на нейкі час растыражаваць і паўсюль адправіць, гэта было б добра ў казках. Я фізічна адзін і прапанова была даўным-даўно, год назад. Я лічу, што і ў Варшаве трэба, каб слухалі добрую беларускую музыку.

**— Адзначаць стагоддзе БНР не будзеце на радзіме, але ўсё-такі, дадумваюся, што шумна?**

— Ну, канешне. Я думаю, што чарку ўздымем за БНР, за яго стваральнікаў і за тых, хто сёння вядзе нейкія беларускія справы. На фоне ўрачыстасці мала гаворыцца пра пакутнікаў, а вельмі шмат людзей, якія загінулі, пра якіх нічога невядома, якія верылі ў Беларусь. Гэта якраз тычыцца і настаўнікаў, якія вучылі дзетак беларускай мове, і тых, хто вярнуўся і паверыў саветам. Гэта таксама такі трагічны момант, але гісторыя з гэтага складаецца.

Гутарыла
**Уршуля ШУБЗДА**

# Засталіся адно ўспаміны (39)

Малочкі, што ў Боцькаўскай гміне, нічым не вылучалася сярод іншых сёл на Падляшшы. Сяляне займаліся земляробствам. Да гміннага цэнтра, Боцькаў, далёка, амаль дзевяць кіламетраў. Апрача вясковай крамы ды пажарнай каманды нічога не было. Але сялянам жылося някепска. Зямля тут ураджайная, давала прыбытак. Сяляне спецыялізаваліся ў жывёлагадоўлі, бо пашы і сенажацей навокал было ўдосталь. Памятаю, што ў пяцідзясятых гадах малочкаўцы на чаромхаўскі рынак прывозілі сена, салому ды іншыя сельскагаспадарчыя прадукты. У нас была кароўка. Корму на зіму не хапала дык сена і салому падвозілі Санька з Мікалаем — мужыкі з Малочак. У Мікалая былі пушыстыя вусы, таму мы прысвоілі яму клічку «Чарнавусаў». Абодва былі нашымі сталымі пастаўшчыкамі.

З малочкаўскімі кавалерамі я пазнаёміўся раней, чым пачалі мы заязджаць з кінаперасоўкай. Было гэта ў другой палове пяцідзясятых гадоў, калі ўпарадкоўвалі рэчышча ракі Нурэц — фашынай умацоўвалі берагі. Хлопцы з Малочак аформіліся на працу ў Бельскае прадпрыемства воднай меліярацыі. Кватаравалі яны ў гаспадыні Саевічкі, непадалёк вадакачкі, зараз за мосцікам. Падружыў я з Янкам Гапанюкам, у якога былі сваякі ў Чаромсе. У сярэдняй школе пазнаёміўся я з Янкам Голубам. Хлапец выходзіў з Малочак, росту быў невялічкага, кручэляваты, у школе адно год затрымаўся. Пакінуў навуку і вярнуўся дамоў да бацькі на гаспадарку.



■ Кавалеры з Малочак пры краме. Першы злева сядзіць Янка Голуб, справа (палівае) прадавец Уладзімір Бенядзюк

Спаткаліся мы з сябрам у Малочках, калі з кінаперасоўкай заехалі. Было гэта пад канец 1962 года. Машыну мы паставілі побач вясковай крамы, якая змяшчалася ў прыватнай кватэры прадаўца Валодзі Бенедзюка. З левага боку быў невялічкі магазінчык, з другога боку жылі гаспадары. Жонка Валодзі, якому аднавяскоўцы чамусьці далі клічку «Капітан», працавала прадаўшчыцай у суседніх Снежках. У Малочках адно былі прадукты першай патрэбы і самае таннае (па 11 зл.) віно «палкай пісанае». У Снежках была Грамадская рада нарадова і паштовае аддзяленне. Паколькі абодва сёлы амаль межавалі з сабою (каля 2 км), дык мы неаднойчы і туды заязджалі.

Пажарная каманда ў Малочках арганізавалася да вайны, але актыўную дзейнасць пажарнікі праявілі з 1947 года. Тры разы мянялася начальства. Першым начальнікам выбралі Янку Бартошука. Неўзабаве адхілілі яго і назначылі Уладзіміра Хвашчэўскага. Але і гэты нядоўга загрэў месца. Апошнім начальнікам стаў Янка Хількевіч — чалавек амбітны, казалі, ведаў чаго патрабуе. У 1970 годзе пабудавалі святліцу. Ініцыятарамі будовы былі пажарнікі. Два гады пазней сяляне зрабілі складчыну і дабудавалі пажарнае дэпо, дзе захоўвалі пажарнае абсталяванне. У святліцы ўпершыню арганізавалі дзяцінец на жніўны час. Але няшмат дзетак удзельнічала, адно чатырнаццаць асоб. Некаторыя аднавяскоўцы наракалі, што аплата 100 злоты надта высокая.

Калі я наведаў вёску ў 1963 годзе, дык сяляне скардзіліся, што ў сяле бракуе супрацьпажарных басейнаў, бязводных равоў і водаправодных труб ад канавы ў пачатку вёскі з боку Боцькаў. Таксама наракалі на трактарыстаў са Снежак, якія нядбайна апекаваліся сельскагаспадарчымі машынамі — супольнай уласнасцю. Як гаварыў мне старшыня грамадскай рады мгр. інж. Кастусь Санкевіч, нотабена з Кляшчэляў, малочкаўцы жніво ў 1963 годзе закончылі пасняхова і датэрмінова, хоць іх лічылі маруднай вёскай.

Кінасеансы арганізавалі мы ў апусцелым збожжавым складзе за вёскаю. Пускалі ў ход свой агрэгат, бо не было электратоку. Найгорш было ў зімовы час. Не заязджалі мы ў Малочкі, бо будынак быў неацеплены. А ў летні час заязджалі з ахвотай, бо прысутнасць аматараў кіно была значная (зала зарэгістравана была на 90 гледачоў) і сяляне добразычліва ставіліся да кіношнікаў. Я наладзіў сардэчныя адносіны з Янкам Маркевічам, сынам Аляксандра. У вёсцы клікалі яго проста Санькам. Яго жонка — сардэчная, добразычлівая жанчына выходзіла з Навасёлак. Мяне заўжды запрашалі ў госці на Яўфімію, бо Малочкі належаць да прыхода ў Коснай, што каля Дашоў. У сяле было шмат вясёлай моладзі, якая любіла пагуляць і паспяваць. Але аб гэтым у наступным допісе.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**
**Фота аўтара**





Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# То мы засняваем гімн школы!



Выдатнікі па беларускай мове з настаўніцай Іааннай Васілюк

— Чаго вас вучаць беларускія вершы? — пытаю ў чацвёртым «б» класе.

— Мы пазнаем новыя словы, — кажа Таццяна Сахарчук, — і больш разумеем мову.

За момант разумнічка Таня скажа такое, чаго не пачуеш нават ад гімназістаў.

— Нам трэба вывучыць мову, каб захаваць яе для малодшых за нас дзяцей, — заяўляе дзяўчынка. — Каб наша беларуская мова не прапала...

Таня разам з сябрамі з класа прыступіла да конкурсу „Роднае слова". Яна развучыла верш Петруся Макаля „Чарадзейная скарбонка". Якія там скарбы?

Гэта не золата і не дыяменты, а мілагучныя словы роднай мовы, ад якіх загараюцца іскрынкі ў дзіцячых вачах і ўсмешкі на тварах.

Мы гаварылі пра буслоў, якія даляцелі ўжо з далёкай Афрыкі. Тэму птушак і маленькіх насякомых наклікалі выступленні Аляксандры Парфянюк і Аляксандры Кобусь, якія выйшлі на сярэдзіну класа і прыгожа прадэкламавалі вершы Станіслава Шушкевіча „Камарыны мікрафон" і „Паламаў камарык ножку".

— Proszę pani, a ja już widziałam bociana! — заявіў нехта з класа. Бусел прыляцеў у Ягуштова, што каля Бельска.

— А твой бусел ляцеў ці сядзеў у гняздзе-буслянцы?

— На шчасце, ён ляцеў! — адзначыла з усмешкай чацвёртакласніца.

Дзеці ведалі беларускае магічнае павер'е, звязанае з прылётам буслоў. Нашы продкі верылі, што калі першы раз убачыць лятучага бусла — нас чакаюць шасцёркі на пасведчанні, удачы і шчаслівыя хвіліны.

Такія шчаслівыя хвіліны чакалі і мяне ў час сустрэчы ў чацвёртым „б" класе, які я наведала вучняў па запрашэнні настаўніцы Іаанны Васілюк.

— То мы засняваем гімн нашай школы, — прапанавалі вучні.

«Цікава, які гэта гімн бельскай „тройкі"»? — падумала я. Іх школу я наведала ўжо сотні разоў, аднак ніколі раней я не пачула пра тое, што школа мае свой гімн. Таму ў напружанасці чакала першых гукаў мелодыі. А мелодыя палілася знаёмая і радасная, як песні вясновых птушак, пра якіх мы шмат гаварылі на ўроку. Падумаеце, што за песня такая? Ведае яе кожны беларус! Напэўна ведаеце і вы! А ідзе яна так:

— Люблю наш край, старонку гэту...

Дзеці праспявалі тры страфы, а мы разам са спадарыняй Іааннай не хавалі ўзрушанасці. Але найфайнейшы момант чакаў на канец сустрэчы. Пасля развітання з класам, да нас падышоў Габрысь Себясюк і заявіў:

— А мая сястра Аня з Беластока ўмее гаварыць па-беларуску.

— Яна студэнтка? — спыталі мы.

— Не, яна малодшая за мяне, — адзначыў з усмешкай Габрысь. — Яна ў прадшколлі...

**Зорка,**
**фота Ганны Кандрацюк**

Канстанцыя БУЙЛО

## Люблю

Люблю наш край — старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасце,
Слязу нядолі праліла.
Люблю народ наш беларускі,
Хаціны ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў.
І рэчку, што імкліва воды
Імчыць ў нязведаную даль,
І схілы берагоў пясчаных,
І яснасць чыстых яе хваль.
Люблю вясну, што ў кветкі, зелень
Аздобіць радасна зямлю,
Буслоў на гнёздах клекатанне
І спеў жаўроначка люблю.
Гарачую спякоту лета
І буру летнюю з дажджом,
Як гром грыміць, а ў чорных хмарах
Маланка зіхаціць агнём.
І восень сумную люблю я,
І першы звон сярпоў і кос,
Як выйдуць жнеі збожжа жаці,
А касары — на сенакос.
Люблю зіму з яе марозам,
Што вокны прыбярэ ва ўзор,
І белы снег, што, ўкрыўшы поле,
Ірдзіцца бляскам ясных зор.
Люблю ў пагодную я ночку
Дапозна на дварэ сядзець,
Сачыць за сініх зор мігценнем,
На месяц залаты глядзець.
І песню родную люблю я,
Што дзеўкі ў полі запяюць,
А тоны голасна над нівай
Пераліваюцца, плывуць.
Усё ў тым краі сэрцу міла,
Бо я люблю край родны мой,
Дзе з першым шчасцем я спазналась
І з гора першаю слязой.
**1913**

# УВАГА КОНКУРС!
# № 12-18

**Праз горы, даліны,**
**Праз тысячы сёл**
**З далёкай краіны**
**Вярнуўся пасол.**
**Дастойны, шаноўны**
**Ён стаў на страсе,**
**У ботах чырвоных,**
**Каб бачылі ўсе.**
**Б....**

**(Ніл Гілевіч)**

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 1 красавіка 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 8-2018: арабіна. Узнагароды, велікодныя наклейкі, выйгралі Якуб Мартынюк, Вераніка Вінская, Оля Кобусь, Ганна Дзмянюк з Бельска-Падляшскага, Алўка Жэпко, Оля Кардаш, Мая Тапалянская з Нарвы. Віншуем!**

№ 12 [25-03-2018]

# Герб і сцяг БНР





Беларускі сцяг — старажытны, з часоў Вялікага Княства Літоўскага. Старажытны сцяг быў чырвонага колеру з выявай «Пагоні» і Багародзіцы з Дзіцяткам. Пяцьсот гадоў назад гербавы малюнак змяшчалі на шчыце. Колер малюнка рабіўся галоўным колерам сцяга, а колер шчыта — дадатковым. Рыцар «Пагоні» быў белы, а шчыт, на якім ён намаляваны — чырвоны, а больш дакладна, пурпуровы.

Так і ўтварыўся беларускі бел-чырвона-белы сцяг БНР.

Аб чым паведамляюць нам колеры герба і сцяга?

Чырвоны колер нашы прадзеды лічылі самым высакародным. Ён азначаў агонь, мужнасць і смеласць у бітве. Белы ці срэбны — гэта чысціня, дабро, свабода і незалежнасць. Золата на крыжы заяўляе пра жыццё, святло, надзею.

Беларусы, як адзначае выдатны пісьменнік Уладзімір Арлоў, асабліва любяць белы і чырвоны колеры. Яны ва ўзорах старажытных ручнікоў і ў даўнейшым народным адзенні. У беларускіх казках, калі князі і асілкі едуць абараняць свой народ ад захопнікаў, яны абавязкова на белым кані. Белы конь — гэта вобраз сілы, красы і здатнасці, адраджэння і ўваскрэсення да новага жыцця. Ваяка на белым кані абазначае перамогу.

Белы колер вельмі пашыраны на Беларусі, адтуль магчыма, паходзіць і яе назва — белая, чыстая як свято КРАІНА.

*Паводле «Адкуль наш род»*
*У. Арлова*

# Падарвалі сцэну!


Фота: Ганны Кандрацюк

Іх выступленні ўзрушылі і захапілі як ніякае беларускае мерапрыемства. Тут быў агонь, прыгожасць і дбайнасць пра дэталі. Мова пра суботнія выступленні (17 сакавіка г.г.) «Падляшскага вянка» і «Скарбонкі» з Гародні. Разам з народнымі беларускімі танцамі яны спявалі і прадстаўлялі эцюды на словы беларускіх паэтаў. Яшчэ сёння ў вушах гучыць спеў маленькага Аляксандра Хаманюка — «Гуляй казак», які разам з беластоцкімі хлапчукамі, і салістам танцорам Шымонам Клімюком «раскруцілі» буру на сцэне... Больш пра выступленні беластачан і гарадзенцаў у чарговых нумарах «Зоркі».

**(гак)**

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

## Жыві, Беларусь!

Жыві, Беларусь! Веру,
будзеш жыць заўсёды.
Святло «Пагоні» будзе сэрцы нашы акрыляць.
Жыве, жыве наш край пакутны і свабодны,
Нескароная нікім і святая зямля.
Беларусь! Беларусь!
Хай цябе мінуць усе нягоды,
Век у шчасці жыві, ты, Радзіма мая!
Жыве Беларусь — нашай долі абуджэнне.
Краіна-маці, ты прызнанне шчырае прымі:
Жыве! Жыве! Гучыць узнёсла благаславенне,
Беларускі вольны дух уваскрос з даўніны.
Беларусь! Беларусь!
Мы тваё вітаем адраджэнне,
Будзеш вечна вольнай ты,
будзем вольнымі мы.
Жыве Беларусь! Нас нядоля не здалела.
Магутны Божа, беражы Айчыну з году ў год.
Жыве! Жыве! Як непагасны сімвал веры,
Будзе вечна на зямлі пасполіты наш род.
Беларусь! Беларусь!
Пад штандарам бел-чырвона-белым
Век у шчасці жыві, беларускі народ!

# Польска-беларуская крыжаванка № 12-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 8-2018:**

Нараст, жораў, ром, жаўранак, камера, дата, ацэнка, Ян. Ева, ножка, ара, траўка, Аман, танец, арэх, паркан, румянак.

Узнагароды: кніжку ***Вольгі Гапеевай «Смачны суп»*** выйграла **Дар'я Чарняўская** з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім; ***«Суперкнігу пра Біла з Болаю (Біл разумны а Бола вясёлая)»*** аўтарства ***Гуніла Бэрґстрэма*** — **Матвей Зыскоўскі** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, ***«Баваўняную дзяўчынку» Дар'і Вашкевіч*** — **Юлія Шкляжэўская** з Нарвы, ***«Азбуку Вясёлы вулей» Рыгора Барадуліна*** — **Дамініка Дмітрук** з бельскай «тройкі», ***«Сем Ружаў» Надзеі Ясьмінскай*** — **Юлія Залеўская** з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім, ***«Пэтсан сумуе» Свэна Нурдквіста*** — **Оля Каліноўская** з Нараўкі, каляндар ***«Не маўчы пабеларуску»*** — **Магда Якубюк** з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім. Віншуем!

Узнагароды падарыў вам Саюз беларускіх пісьменнікаў з Мінска.

Władza
Wejście
Wąs
Łąka
Mag
Pogoń
Biały
Czoło
Park
Herbatka
Szum
Igła
Hit
Łapówka
Gala
Herb
Spodnie
La
Maja
Ina
Jak
Jan

# Айцец Канстанцін Байко

**Тэатр Гайнаўскага белмузея, апекуном якога з'яўляецца рэжысёр і акцёр Іаанна Троц, 11 сакавіка ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы запрэзентаваўся з прэм'ерай спектакля «Айцец Канстанцін Байко». Быў ён падрыхтаваны на падставе кнігі Дарафея Фіёніка «Айцец Канстанцін Байко — багаслоў, настаўнік, лекар», успамінаў пакойнага архіепіскапа вроцлаўскага і шчэцінскага Іераміі і інфармацый, сабраных айцом Аркадзіем Баранчуком. Паказаныя вучнямі ў спектаклі жыццё, служба, праца і дзейнасць айца Канстанціна Байко перапляталіся з весткамі пра здарэнні ў асяроддзі, у якім прыйшлося жыць святару і здымкамі з кніжкі Дарафея Фіёніка. Падзеі ў спектаклі ў вялікай ступені тычыліся Бельска-Падляшскага, дзе айцец Канстанцін Байко ахвярна працаваў настаўнікам праваслаўнай рэлігіі і суарганізаваў беларускае школьніцтва, і Белавежы, дзе ён нарадзіўся, правёў дзяцінства і быў пахаваны. Публіка ў кіназале белмузея доўга апладзіравала пасля спектакля за цікава састаўлены Іаанай Троц сцэнарый, багатае і арыгінальнае сцэнічнае афармленне, інструментальную і харавую музыку, а перш за ўсё ўмелую ігру юных акцёраў.**





Раней прэзентацыя асобы айца Канстанціна Байко некалькі разоў адбылася ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Настаўніца праваслаўнай рэлігіі ў Бельскім белліцэі Эва Астапковіч збірала матэрыялы пра айца Канстанціна Байко разам з ліцэістамі. У Бельскім белліцэі прайшла прамоцыя кнігі Дарафея Фіёніка «Айцец Канстанцін Байко — багаслоў, настаўнік, лекар», выдадзенай Студзіводскім музеем. Артыкулы пра айца Канстанціна друкаваліся ў перыядычных выданнях «Бельскі гостінэць» і «Беларускі гістарычны зборнік». Змест кнігі «Айцец Канстанцін Байко...» умела выкарыстала для напісання — перш за ўсё на беларускай мове — сцэнарыя спектакля Іаанна Троц. Спектакль пачынаецца з паказання Белавежы пачатку ХХ стагоддзя, куды быў ужо пракладзены чыгуначны пуць і цар Мікалай ІІ прыязджаў сюды на адпачынак. Тут у 1909 годзе нарадзіўся герой спектакля, тут выхоўваўся, правёў дзіцячыя і юнацкія гады, і тут ён пахаваны. У спектаклі ў арыгінальны спосаб запрэзентаваны паасобныя этапы жыцця айца Канстанціна Байко: бежанства, дапамога бацькам пасля вяртання з Расіі, навука. Канстанцін Байко вучыўся ў Праваслаўнай духоўнай семінарыі ў Вільні, якая знаходзілася ў тым самым адукацыйным комплексе, што Віленская беларуская гімназія і Таварыства беларускай школы. У семінарыі частка заняткаў праводзілася па-беларуску. Вучні ў спектаклі ўмела прадставілі атмасферу вучобы маладога Канстанціна ў духоўнай семінарыі ў шматнацыянальным горадзе. Там ён прымаў удзел у лекцыях у Медыцынскім інстытуце. Пазней у Варшаўскім універсітэце атрымаў ён званне магістра тэалогіі. Служыў айцец Канстанцін у прыходах на Холмшчыне і ў Заходняй Беларусі, дзе, між іншым, закрываліся цэрквы. У 1944 годзе айцец Канстанцін стаў працаваць настаўнікам закону Божага і суарганізаваў беларускае школьніцтва ў Бельску-Падляшскім — гэтыя моманты былі асабліва адзначаны ў спектаклі. Дарафей Фіёнік мяркуе, што за вернасць мітрапаліту варшаўскаму і ўсяе Польшчы Дыянісію айцец Канстанцін у сакавіку 1946 года быў затрыманы савецкімі спецслужбамі непадалёк ад моста на рацэ Белая ў Бельску. Без згоды ўлад Польшчы перавезены быў у Савецкі Саюз і прысуджаны да 10 гадоў цяжкіх работ у Варкуце. Айцец Канстанцін вярнуўся на Беласточчыну падчас адлігі 1956 года. Тады якраз адраджалася ў нас беларуская культура, што айцец Канстанцін Байко ўспрыняў з задавальненнем. Стаў ён чытаць беларускі тыднёвік «Ніва», які з'явіўся якраз у 1956 годзе, а ў 1958 годзе прыняў удзел у ІІ з'ездзе БГКТ. Адраджэнне беларускасці ў Польшчы, у якое ўключыўся айцец Канстанцін, з асаблівай увагай было запрэзентаванае ў спектаклі. У 1957-1961 гадах айцец Канстанцін вёў заняткі праваслаўнай рэлігіі ў школах Бельска, а пасля забароны вучыць закону Божаму ў школах айцец Канстанцін вучыў яшчэ праваслаўнай рэлігіі ва Уваскрэсенскім прыходзе. У 1964 годзе айцец Канстанцін Байко стаў служыць у Вроцлаўска-Шчэцінскай епархіі, якой кіраваў тады епіскап Васілій (Дарашкевіч), пазнейшы мітрапаліт, а ў мінулым выпускнік духоўнай семінарыі ў Вільні і яго школьны сябра. Святар з невялікай Белавежы атрымаў добрую багаслоўскую адукацыю і добра арыентаваўся па свецкіх прадметах. Добра ведаў ён беларускую, польскую, царкоўнаславянскую і расійскую мовы, валодаў французскай, нямецкай, англійскай і румынскай мовамі, а ў школах вучыў таксама класічнай грэчаскай і лацінскай мовам. Калі айцец Канстанцін стаў настаяцелем праваслаўнага прыхода ў Старгардзе-Шчэцінскім, мог выкарыстаць толькі невялікую частку сваіх свецкіх ведаў. Аднак перш за ўсё служыў Богу і вернікам.

— Жыццё айца Канстанціна Байко, несумненна, можна акрэсліць як жыццё спаведніка, мучаніка за веру... Як духоўны імпанаваў адвагай, глыбокімі тэалагічнымі ведамі, здольнасцямі бескампраміснага сведчання аб сваёй веры. Належаў да асяроддзя вучняў мітрапаліта Дыянісія, якія засталіся вернымі свайму духоўнаму айцу ў найтруднейшы час, — гэтае выказванне пакойнага архіепіскапа Іераміі змешчана ў кнізе, выдадзенай Студзіводскім музеем.

Асабліва моцна маладымі акцёрамі адзначаны былі момант арышту айца Канстанціна савецкімі спецслужбамі каля моста па рацэ Белая ў Бельску-Падляшскім, які зараз названы яго іменем, пошукі святара яго сямейнікамі і пазнейшае жыццё айца Канстанціна ў зняволенні ў Варкуце, дзе выжыць яму дапамагла праца ў якасці лекара. Пасля вяртання ў Польшчу прабачыў віны сваім праследавацелям, жыў з малітвамі і спадзяваннем на Божую волю.

— Усюды, дзе айцец Канстанцін быў нават коратка, пакінуў трывалы след у людскіх сэрцах і душах. Духоўны вельмі любіў людзей, ахвяроўваў ім цэлага сябе, дзяліўся ўсім, што меў. Яго біяграфіі хапіла б да абдаравання многіх людзей. Усё жыццё айцец Канстанцін паказвае нам, як важнае ёсць, нягледзячы на ўмовы, захаванне годнасці і людской уражлівасці, — напісаў Дарафей Фіёнік у сваёй кніжцы.

Айцец Канстанцін перад смерцю лячыўся ў шпіталі ў Бельску-Падляшскім. Спектакль завяршаецца на 1984 годзе, калі айцец Канстанцін Байко памёр і быў пахаваны на могілках у Белавежы. Вучні выйшлі развітацца з публікай, а тая доўга апладзіравала. Дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк уручыў усім маладым акцёрам і іх апекунам кветкі і запрасіў выступоўцаў на пачастунак, а прадстаўнікі вучняў і іх бацькоў уручылі Іаанне Троц кветкі і падарунак. Публіка выходзіла з залы вельмі ўзрушаная жыццём айца Канстнціна Байко і ўмелай ігрой вучняў, звяртаючы ўвагу на цікавы сцэнарый спектакля састаўлены Іаанай Троц, багатае і арыгінальнае сцэнічнае афармленне, інструментальную і харавую музыку, якая суправаджала спектакль.

— Я ведала, што каб расказаць гісторыю жыцця айца Канстанціна Байко, трэба стварыць містыку, якая яму спадарожнічала. Ён служыў у вельмі цяжкі час, а калі да гэтага дабавіць праўду, за якую змагаўся, яго адвагу, малітву і вялікую веру, атрымліваецца на сцэне вельмі драматычна, тэатральна і моцна, што вучні сёння паказалі, — сказала рэжысёр спектакля Іаанна Троц.

У спектаклі пра айца Канстанціна Байко па-акцёрску запрэзентаваліся вучні гайнаўскіх Белліцэя і Белгімназіі, Гімназіі пры Пачатковай школе № 4 у Гайнаўцы, Бельская белліцэя і Пачатковай школы № 3 у Бельску-Падляшскім, якія займаюцца ў тэатральнай групе Гайнаўскага белмузея — Анна Бяляўская, Аляксандра Буслоўская, Дамініка Пуц, Яцак Дружба, Кацпар і Мікола Кэчынскія, Эва Кот, Эва Іванюк, Павел Януцік, Паўліна Заянчкоўская, Пётр Свідэрскі, Юлія Скарбіловіч і Марыя Тарасюк. У спектаклі царкоўныя творы і свецкія беларускія песні спявалі і гралі на розных інструментах гайнаўскія белліцэісты Эва Кот і Яцак Дружба ды бяльшчане Юлія Скарбіловіч і Пётр Свідэрскі. Мультымедыйную частку спектакля падрыхтаваў Максім Фіёнік. Спяваць партыі царкоўнай і свецкай музыкі занятую ў спектаклі моладзь вучыла дырыжор хора Успенскай царквы ў Бельску-Падляшскім Эва Лук'янюк.

Спектаклем моцна ўзрушаны быў Дарафей Фіёнік, які быў пад вялікім уражаннем ад ігры маладых акцёраў і выявіў сваё захапленне сцэнарыем Іаанны Троц, паводле якога вучні з любоўю паказвалі нават складаныя сцэны, дзе за трагізмам было відаць светласць.

— Мы ўжо думалі, што не паспеем з падрыхтоўкай спектакля. Але сёння са спадарыняй Іаанай паскладалі ўсе сцэны ў цэласць і ўдалося паказаць спектакль, які крануў таксама нашы сэрцы, — заявілі юныя акцёры Пётр Свідэрскі і Яцак Дружба.

Дарафей Фіёнік выявіў перакананне, што пры падрыхтоўцы спектакля спрацавалі два фактары — талент Іаанны Троц і хадайніцтва ў Бога айца Канстанціна.

— Калі мы сталі выступаць перад публікай, самі адчулі трагізм жыцця айца Канстанціна, які быў вялікім чалавекам, аддадзеным Богу і людзям, які мусіў многа перацярпець у турмах, на ссылцы ў Варкуце і заставаўся адзінокім, вярнуўшыся ў Польшчу, — гаварылі гайнаўская белліцэістка Анна Бяляўская і бельская белгімназістка Юлія Скарбіловіч.

— Самае вялікае ўражанне зрабіла на мяне сцэна, калі мы, раскідваючы лістоўкі перад публікай, прадстаўлялі лёсы звыш шасцідзесяці тысяч людзей, якія загінулі ў Варкуце, — сказала гайнаўская белліцэістка Аляксандра Буслоўская.

— Я пад велізарным уражаннем ад таго як арыгінальна, а адначасна змястоўна быў запрэзентаваны спектакль пра трагічнае жыццё айца Канстанціна Байко, — заявіў Анджэй Кэчынскі — бацька выступаючых у спектаклі Кацпара і Міколы.

Арганізатарамі прэзентацыі спектакля былі Тэатр «Чрэва» і Гайнаўскі белмузей. Магла яна адбыцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі і Гарадской управы ў Гайнаўцы.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**


Фота Міры ЛУКШЫ

# А я люблю Вялікдзень

Чаму я люблю Вялікдзень? Паводле мяне, Вялікдзень важнейшы ад Божага Нараджэння можа таму, што Вялікдзень папярэджвае Вялікі пост — самы важны пост у праваслаўі. Пост гэта духовая падрыхтоўка да Пасхі малітвай і постам, які трывае 40 дзён, так як пост Хрыста ў пустыні. Вялікдзень гэта найважнейшае ў годзе свята таму, што Хрыстос перамог тое, што людзям не здараецца — смерць. І менавіта смерцю адкупіў Ён грахі цэлага чалавецтва. Збавіцель Сваёй крывёю абмыў косці нашых прайцоў — Адама і Евы, змыў іх першародны грэх. Хрыстос не толькі перамог смерць, але і Самога Сябе. Ён таксама па-чалавечы баяўся, што Яго чакае таму, што як Сын Божы ведаў, колькі прыніжэння Яго чакае. Люблю Вялікі пост таму, што гэта час не толькі прыбірання панадворка, хаты, але і прыбіранне ды ўпарадкаванне нашай душы, змаганне са сваімі слабасцямі, перамога над грахоўнымі прывычкамі. Пост, малітва, споведзь павінны нам асацыявацца з Вялікім постам. Пост не павінен быць дыетай, як гэта паўтараюць духоўныя айцы, але стрыманнем нас ад страў, ад таго, што любім. Пост вучыць нас цярплівасці ў чаканні свята свят — Уваскрашэння Хрыста. Пост гэта змаганне з самім сабою, са сваімі слабасцямі і грахамі. Вялікі пост заканчваецца ў Лазараву суботу, у дзень, у якім Хрыстос уваскрашае Лазара — брата Марыі і Магдаліны, які пасля хваробы памёр і цела яго спачывала і ўжо смярдзела. Хрыстос, на здзіўленне Лазаравых сясцёр і знаёмых, ажывіў яго.

## Вербніца

Пасля Лазаравай суботы наступае Вербная нядзеля — у народзе званая Вербніцай ад таго, што ехаўшага на асле Хрыста жыхары Іерусаліма віталі словамі «Асанна Сыну Давідаву». Большасць іх высцілала дарогу пальмамі, таму што была бедная. Вядома, што Хрыстос прыйшоў да бедных, хворых ды патрабуючых Яго. Толькі нямногія пад ногі Хрыста слалі дываны — вядома ж, багатыя. У цэрквах асвячаюцца вербачкі на знак пальмаў, якія пад ногі Хрыста слалі бедныя. Ёсць шмат прымавак і прыказак на гэтае свята. Вось адна з іх, наша падляшская з часоў майго дзяцінства :

«Вэрба б'е
Нэ заб'е
За тыждэнь
Вэлікдэнь
Будь здоровы як вода
Будь богаты як зэмля».

Асвечанай вербачкай сцёбалі на шчасце жывёлу, якую ўпершыню выганялі пасля зімы на луг. Асвечаныя галінкі вярбы трымалі пад іконай, якая ахоўвала дом ад буры і няшчасця.

## Вялікі тыдзень

Пасля Вербніцы канчаецца Вялікі пост, а нас чакае шэсць (у гэтым годзе пяць) дзён Вялікага тыдня. Кожны дзень тыдня мае сваё значэнне, апісанае ў Біблії. Найважнейшымі з'яўляюцца Вялікі чацвер — падрыхтоўка да мучэння Хрыста. Апошняя вячэра, падчас якой здзяйсняецца адно з найважнейшых таінстваў у хрысціянстве — Хрыстос у час вячэры мяняе віно ў Ягоную кроў, а хлеб — у Ягонае цела і ўпершыню прычашчае апосталаў. Толькі адзін з іх мачае хлеб у соль і гэта ён — Іуда ужо ёсць здраднікам, за трыццаць срэбранікаў прадае Хрыста яшчэ дзень раней. У час Вялікае вячэры Хрыстос прадбачвае, што апостал Пётр тры разы ад Яго адрачэцца. Пасля Вялікай вячэры апосталы лягаюць спаць, а Хрыстос цэлую ноч моліцца і размаўляе з Богам. Нават Хрыстос, хаця Сын Божы, баяўся таго, што Яго чакае: прыніжэнне ад народу, які на Вербніцу вітаў Яго ў Іерусаліме, а ў Вялікую пятніцу, у дзень смерці Хрыста будзе крычаць «Распні яго».

Хрыстос за свае добрыя ўчынкі стане ўкрыжаваны з зайздрасці фарысеямі, якіх Сын Божы перамог, таму што за Хрыстом пайшлі натоўпы народу, на якіх ён праяўляў свае цуды.

## Вялікая субота

У Вялікую суботу заўсёды раніцай асвячаюць яду, асабліва яйкі. Асвечаныя бацюшкам харчы паяўляюцца на велікодным стале, каб скаштаваць іх на велікодны сняданак. У час посту ёсць вялікае свята — Благавешчанне Гасподняе. Сёлета прыпадае яно ў Вялікую суботу. Свята радаснае — Ангел нясе для Багародзіцы радасную вестку, што Яна народзіць Сына Божага, які прынясе нам збаўленне і адкупленне да грахоў чалавецтва. У гэтае свята пост ёсць лагаднейшы, чымсьці ў іншыя дні Вялікага посту.

## Вялікдзень

І пасля Благавешчання каля поўначы людзі збіраюцца ў цэрквах сустрэць радасны гул званоў і найбольш радасны вокліч святара «Христос воскресе!», а натоўп вернікаў разам гучна адказвае «Воистину воскресе!». І так паўмільёна праваслаўных у нашай краіне святкуе разам з братамі ў Хрысце ў традыцыйна праваслаўных краінах: Беларусі, Украіне, Расіі, Румыніі, Балгарыі, Малдове, Сербіі, Чарнагорыі, Македоніі, Грэцыі... а таксама ў тых краінах свету, дзе праваслаўныя вернікі ў значнай меншасці. Усе радасна вітаюць уваскрэслага Сына Божага.

## Яйкі — сімвал Вялікадня

А з чым асацыюецца свята Вялікадня? У асноўным з яйкамі — сімваламі жыцця, якія на Вялікдзень смакуюць найлепш. У час дзяцінства маіх бацькоў шмат гульняў звязаных было з яйкамі. Выйграваў той, у каго мацнейшае яйка разбівала слабейшыя. А яйкі красілі ў цыбульніку, або ў маладым аўсе, ці ў дубовай кары, што давала ім непаўторны колер. На яйках таксама пісалі ўзоры растопленым воскам. Яйкі давалі ў падарунку. Хросныя дарылі іх хросніккам, бабулі — унукам, цёткі — пляменнікам. Яйкі таксама заносілі на магілы памерлых у праваднуую нядзелю (тыдзень пасля Вялікадня), калі бацюшка маліўся на магілах за памерлых.

## Велікодныя асацыяцыі

З чым мне асацыюецца Вялікдзень? У Вялікдзень прыязджалі госці, на другі дзень Вялікадня вечарам ладзілі на вёсках забавы. А ў кулінарным плане — са свойскай вяндлінай: каўбаскай, паляндвіцай, бачком, сальцісонам, якія рабіла цэлая сям'я і вэндзіла перад Вялікаднем. Свята асацыюецца таксама са свойскім хрэнам, сабраным у агародчыку, цертым уласнаручна. Хаця церлі хрэн у сенях пры адкрытых дзвярах, то і так моцна льюцца слёзы. Потым у церты хрэн дадавалі вараныя чырвоныя буракі. Свойскія вяндліны з такім хрэнам — смаката! Вялікдзень таксама асацыюецца з чыста прыбранай хатай, панадворкам, які цэлы тыдзень прыводзілі ў парадак. Калі Вялікдзень выпадае пазней ад каталіцкага, у пачатку траўня, тады бывае добрае надвор'е. Тады хочацца выйсці ўсёй сям'ёй на лавачку перад хатай або проста на прагулку. А на двары красата і пах расцвітаючых садоў, кветак, траў... Нездарма Вялікдзень завуць духоўнай вясной — узнагародай за шчыры пост, малітву, споведзь і прычасце. Вясёлых свят! Христос воскресе! Воистину воскресе! Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос!

Юрка БУЙНЮК

---





Ала ЯСВІЛОВІЧ / Семяноўка

## Зямлячка

Я «зямлячка», хаця «палячка»,
Таму што ў Польшчы я жыву.
Беларусаў я сваячка,
Беларусаў я люблю.

Беларусы – простыя людзі,
Немагчыма іх не любіць.
Б'юся сёння я ў грудзі.
З імі можна «суп зварыць»!!

* * *

Мы сапраўдны Беларусы,
Ад карэнняў, усё жыццё,
Белы волас, чорны вусы
Ад народзін нам даны.

А таксама чарнявыя,
Чорны бровы, кары вочы.
Мы старыя і малыя,
Так за дня, як і ў ночы.

Заўсёды помнім мову нашу.
Нашы словы сэрцу блізкі
Вывучалі, еўшы кашу,
Яе гукі ад калыскі.

І няма на цэлым свеце
Такой звонкай мілай мовы.
І скажу я Вам у сакрэце:
Бараніць яе гатовы.

## Сонца, «не ўстыдайся»

Сонца, Сонца, «не ўстыдайся»!
Ты за хмары не хавайся,
Сваё лічка пакажы,
Цёплу казку раскажы.

Прамяністымі рукамі прытулі
Усіх людзей Ты на зямлі,
Хай пачуюць жар Твой.
Не хавайся Ты, пастой!

Сонца любяць усе на свеце,
І дарослыя, і дзеці.
Свяці, Сонца, увесь час.
Атуляй цяплом Ты нас.

## Марыя – тост!

Малая дзяўчынка нарадзілася
на свет.
Хай яе жыццё прабяжыць без бед.
І хай здарова будзе яна.
Вып'ем за гэта сёння да дна!

А яшчэ па поўным махнуць трэба,
Каб ёй заўсёды хапала хлеба,
І каб шчаслівa яна жыла,
Заўсёды вясёлая, задаволеная была.

Ружы хай сцелюцца ёй пад ногі,
Не перажыве ні адной трывогі.
І ўсякае добрае яе не мінае,
Смутак і роспач далёка адплывае.

І яшчэ выпіць мусім
За стагоддзе жыцця Марусі.
Хай жыве сто лет альбо болей,
Згодна са сваёй і Божай воляй.

А пажаданні гэтыя ўсе
«Вясковая радзіна» Марыі шле.
Сёння сабраліся ў яе хаце,
Каб павіншаваць яе й прывітаці.

# Новы ідэі і старыя клопаты «Нівы»

Пераабранае новае кіраўніцтва Праграмнай рады тыднёвіка «Ніва». Старшынёй Рады ўжо трэцяе скліканне быў пераабраны **Яўген Вапа,** а яго намеснікам, як і раней, стала **Ілона Карпюк-Дамброўская.** Праграмную Раду папоўнілі **Ганна Кандрацюк-Свярубская** (сакратар)**, Міхась Стэльмашук** (скарбнік) і **Пятро Станкевіч** (член).

У рэвізійную камісію ўвайшлі **Алег Латышонак** (старшыня) **Міраслава Лукша** (сакратар)**, Пятро Крук** (член).

**Яўген Вапа:**

— Мы сёння атрымалі пісьмо з Дэпартамента кантролю Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, кантралёры якога з 12 па 16 студзеня зрабілі праверку ў «Ніве». Вынікі кантролю пазітыўныя, усе фінансавыя сродкі былі выдадзены на публічныя задачы і правільна разлічаны. Калі ідзе пра актуальныя фінансы, мы атрымалі датацыю, якая дазволіць выдаваць газету да кастрычніка. Зараз ідуць старанні, каб знайсці грошы на працу канцылярыі і выдаванне газеты ў апошнія месяцы года — пішам праекты і чакаем іх паспяховага ажыццяўлення.

Яўген Вапа адзначыў, што праблемы «Нівы» у асноўным фінансавыя.

Журналісты і карэспандэнты «Нівы», нягледзячы на цяжкасці (у гэтым годзе яны атрымалі першую зарплату ў сакавіку, у мінулым — у красавіку) паспяваюць апісаць падзеі, якія адбываюцца ў беларускім свеце і на Падляшшы.

Калі ідзе пра тыраж, дык ён трымаецца на адным узроўні — 1300 экземпляраў. Найбольш чытачоў газеты ў Бельску, Гайнаўцы і Беластоку, а калі гаварыць пра школы, якія аказваюць нам падтрымку, гэта найперш Гайнаўскі і Бельскі белліцэі, ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім і Праваслаўная школа ў Беластоку. Цягам апошніх дваццаці гадоў «Ніва» з усё большымі перашкодамі трапляе ў вёскі і мясцовасці аддаленыя ад гарадскіх цэнтраў. Таксама з-за адміністрацыйных і фінансавых перашкод мы не ў змозе прадаваць газету ў Берасці і Гродне, а як паказаў наш апошні візіт у Беларусь, там ёсць зацікаўленасць газетай і патэнцыяльныя чытачы.

Рэдакцыя праводзіць тры праекты: літаратурны семінар «Бязмежжа», журналісцкія майстар-класы для дзяцей і моладзі «Сустрэчы „Зоркі“» і літаратурны конкурс «Дэбют». Старшыня і заадно галоўны рэдактар «Нівы» назваў шэраг ніўскіх выданняў, між іншым мінулагодніх — Міры Лукшы «Спеў дрэў» і Ганны Кандрацюк «Па Прыпяці па Нобель».

Праінфармаваў таксама, што алічбоўкай «Нівы» займаецца ўжо Беларускае гістарычнае таварыства. На гэтую тэму вядуцца таксама перамовы з Ваяводскай бібліятэкай. Зараз неадкладнай справай з'яўляецца ажыццяўленне электронных версій беларускіх перыядычных выданняў. Беручы пад увагу кошт, можа гэта быць супольны праект сайта для «Нівы» і «Часопіса».

У час дыскусіі была ўзнята тэма электронай версіі газеты. Дэлегаты пагадзіліся, што адначасова трэба захаваць папяровую версію. Як адзначыў Віктар Стахвюк, сённяшні чытач «Нівы» прывыклы да папяровай газеты. Пётр Станкевіч прапанаваў, каб продаж «Нівы» рэалізаваць у інтэрнэтнай версіі пры змяншэнні папяровага тыражу.

Ганна Кандрацюк-Свярубская закранула пытанне колеру. З-за кошту «Ніва» друкуецца ў чорна-белым колеры. А ў такім выглядзе, — адзначыла, — яна мала прывабная маладому чытачу. Адказ старшыні Рады быў знаёмы: датацыя прызначаная «Ніве» не дазваляе на колер. У справе электроннай версіі заявіў, што да канца канікул будзе праведзены аналіз кошту стварэння сайта і магчымасць продажу электроннай версіі газеты пры дапамозе эсэмэсак і абанементу.

Сход прайшоў 12 сакавіка г.г. у рэдакцыі «Нівы».

(гак)

Фота: Галіна Рамашка



Дэлегаты Праграмнай Рады «Нівы»: сядзяць злева: Міра Лукша, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк-Дамброўская. Стаяць злева: Матвей Сэвастыянік, Алег Латышонак, Міхась Стэльмашук, Віктар Стахвюк, Яўген Вапа, Віктар Швед, Віталь Луба, Вячаслаў Харужы, Пятро Крук, Яўген Міранові, Пятро Станкевіч.




Хоць сёлетняя вясна халадней за звычайную і шмат дзе яшчэ ляжыць снег у сумётах, цяпло няўмольна надыходзіць. А разам з гэтым доўгачаканым цяплом прыйдзе сапраўдная вясна з яе ажываннем прыроды і ростам турыстычных зацікаўленняў. Цёплая пара года спрыяе большай рухомасці па мясцінах, асабліва па тых, дзе ніколі не бываў.

Звычайна людзі выбіраюцца ў навакольныя вандроўкі без гідаў. Але часам лепей пайсці ў паход з праваднікам, які не толькі добра ведае мясціны, але можа нешта карыснае параіць, дапамагчы падчас вандравання. І яшчэ адзін плюс для такога праважатага, калі ён выкарыстоўвае пры гэтым беларускую мову. Напрыклад, як Сяржук Місюкевіч з беларускай сталіцы, які даўно займаецца турызмам і пешымі вандроўкамі ў розных краінах свету. Каб больш падрабязна, хоць і віртуальна, пазнаёміцца з вандроўнікам, трэба зазірнуць на яго сайт у інтэрнэце, што месціцца па адрасе www.pahod.by.

Варта адзначыць, што сайт Місюкевіча зроблены даволі проста, але тым не менш прыцягвае ўвагу незвычайнымі аздабленнямі ў выглядзе малюнкаў, зробленых нібыта алоўкам. „Тут вы знойдзеце пешыя і горныя паходы, трэкінгі ў розных кутках нашай планеты, якія я арганізую і праваджу. Калі вас цікавіць прырода, горы, актыўны адпачынак, далучайцеся ;). Усе мерапрыемствы будуць анансавацца тут.

Геаграфія нашых падарожжаў пастаянна пашыраецца. У гэтым годзе: Беларусь, Непал, Марока, Іспанія, Ісландыя, Нарвегія, Сярэдняя Азія. Асноўны накірунак дзейнасці — гэта шматдзённыя пешыя і горныя паходы, трэкінгі (multi-day hikes), альпінісцкія ўзыходжанні, па складанасці дасяжныя звычайным людзям (не спартсменам)", — распавядае Місюкевіч на галоўнай старонцы свайго сайта. На ёй жа ўладальнік сайта вельмі цікава анансуе кожную з не надта шматлікіх рубрык. „Навіны — свежыя як булачкі з суседняй пякарні. Усё новае і цікавае можна знайсці тут", — нібы заклікае пазнаёміцца з навіннымі паведамленнямі аўтар. Нельга сказаць, што навіны абнаўляюцца там штодня альбо штотыдзень, але, пэўна, гэтага і не трэба для такога сайта, які не з'яўляецца нейкім навінным парталам. Дарэчы, апошняя навіна, датаваная лютым гэтага года, тычыцца горнага паходу ў Грузію, які запланаваны на пачатак восені.

Пазнаёміцца з календаром паходаў можна ў адпаведнай рубрыцы. Праўда, там чамусьці пазначаны далёкія краіны, такія як Нарвегія, Ісландыя, Непал, Марока, Іспанія. Пры гэтым Місюкевіч сцвярджае, што адным з улюбёных яго напрамкаў з'яўляецца Беларусь. Магчыма, пра беларускія вандроўкі ў экскурсавода трэба запытвацца асобна.

Пра сябе прафесійны вандроўнік у рубрыцы „Пра нас" сцвярджае, што яму падабаецца распрацоўваць новыя маршруты і адкрываць для сябе іншыя краіны, таму геаграфія вандровак пастаянна пашыраецца. „Намагаюся праводзіць вандроўкі ў рэгіёнах, цікавых не толькі прыгожай прыродай, але і гістарычнымі помнікамі, іншай культурай, кухняй і традыцыямі. Апроч арганізацыі падарожжаў, кожны год бяру ўдзел у спартыўных паходах, езджу ў альплагеры, наведваю курсы і семінары, падвышаючы свой турыстычны і прафесійны ўзровень", — адзначае Сяржук Місюкевіч.

Аляксандр ЯКІМЮК




## Падзеі і асобы БНР

### 100 гадоў з дня абвяшчэння Трэцяй Устаўной граматы

25 сакавіка 2018 года ў Мінску, у так званым доме Маліна (трохпавярховы будынак беларускай сталіцы па сучаснай вуліцы Валадарскага, збудаваны ў 1912 годзе з цэглы) Радай БНР была прынята Трэцяя Устаўная грамата. Згодна гэтаму юрыдычнаму акту Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася незалежнай дзяржавай.

Трэцяя Устаўная грамата была прынята ва ўмовах, калі паводле Брэсцкага міру Савецкая Расія пагадзілася на акупацыю тэрыторыі Беларусі Нямеччынай. Рада БНР выступіла з патрабаваннем перагледзець ганебную Брэсцкую мірную дамову. У выніку гэтай дамовы тэрыторыя Беларусі была не толькі падзелена на часткі. Беларусь нічога не атрымала для ўзнаўлення спустошанай вайной эканомікі, бо змоўшчыкі і супрацьўнікі — Германія і Расія ўзаемна адмовіліся ад кампенсацыі страт, прычыненых вайной насельніцтву войскамі абодвух бакоў. А паколькі вайна ішла выключна на тэрыторыі былой Расійскай імперыі, гэты пункт дамовы азначаў саступку немцам з боку бальшавікоў.

На землях, дзе жыве і мае колькасную перавагу беларускі народ, абвяшчалася вольная, незалежная дзяржава. У яе склад былі ўключаны Магілёўская, Мінская, Віцебская губерні, беларускія часткі Гродзенскай (уключаючы Беласток і Бельск), Віленскай, Смаленскай, Чарнігаўскай, сумежныя часткі Сувальскай, Ковенскай, Пскоўскай губерняў, заселеных беларусамі. Таксама пацвярджаліся правы і вольнасці грамадзян і народаў Беларусі, абвешчаныя раней 9 сакавіка 2018 года Другой Устаўной граматай БНР.

Пасяджэнне Рады БНР пачалося яшчэ 24 сакавіка а восьмай вечара. На ім фракцыя Беларускай сацыялістычнай грамады зрабіла прапанову аб абвяшчэнні незалежнасці. Яе агучыў кіраўнік фракцыі, народны сакратар земляробства Аркадзь Смоліч. Ён прапанаваў прыняць акт, які меў бы канстытуцыйнае значэнне.

Усю ноч ішлі гарачыя спрэчкі. Супраць ідэі беларускіх сацыялістаў выступілі рускія і польскія земскія і гарадскія дзеячы, а таксама яўрэйская партыя Бунд. Пры галасаванні акта аб незалежнасці ў 8 гадзін раніцы 25 сакавіка земскія дзеячы і бундаўцы прагаласавалі супраць незалежнасці Беларусі. Устрымаліся ад галасавання прадстаўнікі дзвюх іншых яўрэйскіх партый, а таксама расійскія эсэры. Тым не менш большасцю галасоў акт аб незалежнасці Беларусі быў прыняты.

Затым быў абвешчаны перапынак, а апоўдні адбылося заключнае пасяджэнне Рады БНР, на якім па пунктах абмяркоўвалася тэкст акта. У выніку на яго аснове ліквідаваліся ранейшыя дзяржаўныя сувязі. Народнаму Сакратарыяту даручалася ўсталяваць кантакты з усімі бакамі і прапанаваць ім перагледзець тую частку Брэсцкай дамовы, якая тычылася Беларусі.

Акт 25 сакавіка перакрэсліў праекты стварэння федэрацыі Беларусі з Літвой або з Расіяй. Пачалося змаганне за ажыццяўленне абвешчанай незалежнасці. Умовы для яе былі вельмі неспрыяльнымі. Краіну акупавала Германія, а яе ўсходнія тэрыторыі знаходзіліся ў складзе РСФСР як Заходняя вобласць. Урады Германіі, Аўстра-Венгрыі і Расіі незалежнасць БНР афіцыйна не прызналі.

Нягледзячы на ўсе перашкоды, акт 25 сакавіка меў важныя наступствы для развіцця беларускага нацыянальнага руху. З гэтым фактам давялося лічыцца як нямецкім імперыялістам, так і расійскім бальшавікам. Адным з наступстваў акта 25 сакавіка стала змушанае стварэнне бальшавікамі Беларускай Савецкай Рэспублікі, хоць марыянетачнай па сутнасці, але самастойнай па форме, да таго ж у тых межах, якія вызначыла Трэцяя Статутная грамата Рады БНР.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Жанчыны і паэты

З нагоды Міжнароднага дня жанчын 11 сакавіка гэтага года ў прыгожай прасторнай святліцы ў Тарнопалі Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета адбылася сустрэча жанчын з Тарнопаля, Смольнай і Слабодкі. Запрасілі на яе нараўчанскіх паэтаў. Не ўсе запрошаныя літаратары змаглі прыехаць. Некаторыя захварэлі грыпам. У Тарнопалі былі Аля Ясвіловіч, Канстанцін Целушэцкі, Янка Целушэцкі і Аляксандр Радзіванюк.

Мерарыемства адкрыў і павіншаваў жанчын са святам мясцовы гмінны радны Станіслаў Садоўскі. Ён быў галоўным арганізатарам гэтай урачыстасці. Усе жанчыны атрымалі ад яго чырвоныя ружы. На сталах было поўна салодкай хлебабулачнай закускі, шакаладу, вінаграду, мандарынак ды белага і чырвонага віна. Панавала мілая, цёплая і сардэчная атмасфера.

Свае вершы, а сярод іх былі прысвечаныя толькі жанчынам, чыталі Кастусь Целушэцкі, Аля Ясвіловіч і Аляксандр Радзіванюк. К. Целушэцкі меў іх найбольш. Некаторыя чытаў са зборніка лірыкаў пад загалоўкам „Найпрыгажэйшыя вершы аб каханні", у якім надрукаваны і яго творы. Мігам праляцелі тры гадзіны сустрэчы маладых жанчын з трох вёсак з паэтамі аднэй і той самай гміны. Паэты шчыра дзякуюць арганізатару за запрашэнне і цёплы прыём.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Як аб сцяну гарохам

Гмінны кааператыў (ГС) у Нараўцы Гайнаўскага павета ліквідавала свае прадуктовыя крамы ў Скупаве, Гушчэвіне, Семяноўцы і ў мінулым годзе ў Новым Ляўкове. Так пастанавіла праўленне кааператыва. ГС прадае свае будынкі. У Скупаве ў будынку былой крамы будзе вясковая святліца. Яго купіла нараўчанскае гміннае самакіраванне.

Я ўжо раней пісаў пра прызабытыя шыльды на будынках былых крам. Калі ў пачатку кастрычніка мінулага года закрылі краму ў Новым Ляўкове, я таксама пісаў, чаму не знялі шыльды з надпісам "Sklep spożywczy GS Narewka". Гэта нічога не памагло.

У пачатку лютага гэтага года я наведаў старшыню ГС у Нараўцы і папрасіў, каб забралі шыльду з фасаднай сцяны былой крамы ў Новым Ляўкове. Мяне як солтыса гэтай вёскі неаднойчы пытаюць прыезджыя, калі працуе крама. Не ўсе ведаюць, чаму зараз крама закрыта. Яна існавала ў Новым Ляўкове шмат гадоў. Яна тут, як кажуць, прыжылася. Старшыня запісала пісульку, каб зняць непатрэбную шыльду са свайго будынка. Час ляціць стрымгалоў. Ужо і сакавік на зыходзе. Шыльды не забралі. Мая просьба ні к чаму. Як аб сцяну гарохам. **(яц)**

100 ГАДОЎ БНР

ЗАПРАШЭННЕ

Арганізацыйны камітэт святкавання стагоддзя Беларускай Народнай Рэспублікі сардэчна запрашае

*Чытачоў Нівы*

на ўрачыстыя мерапрыемствы, якія адбудуцца ў нядзелю 25 сакавіка 2018 года ў Беластоку.

У праграме:

10:00 Царква св. Яна Тэолага, вул. Збігнева Герберта 1
• Святая літургія і малебен за беларускі народ

15:00 Падляшская опера і філармонія, вул. Падлесьна 2
• урачыстыя выступленні і віншаванні
• выступ танцавальнага дзіцячага калектыву „Падляшскі вянок"
• канцэрт Лявона Вольскага

# Адгаданка

**1.** буйны расійскі горад на ніжнім Доне, **2.** абласны ўкраінскі горад на Ворскле, **3.** вяшчанне ў тэлевізары, **4.** тытульны народ Ханты-Мансійскай аўтаномнай акругі на захадзе Сібіры, **5.** гарадок між Лідай і Валожынам, **6.** вакальны ансамбль, **7.** майстар па вырабе глінянай пасуды, **8.** першы або апошні гук музычнай гамы, **9.** рошчына для самагонкі, **10.** горад між Оршай і Магілёвам, **11.** месца заслоненае ад святла, **12.** жалеза, золата або ртуць, **13.** збудаванне печніка, **14.** жоўта-чырвоная фарба для татуіровак і фарбавання валасоў (*henna*), **15.** валік у кроснах, на які навіваюцца ніткі асновы, **16.** Леанід Ільіч (1906-1982), савецкі ваенны, дзяржаўны і партыйны дзеяч, лаўрэат Ленінскай прэміі за кнігі «Малая зямля», «Адраджэнне» і «Цаліна».

| | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | 2 | | | | | | | | | | 3 | | |
| | 4 | | | | 5 | 6 | | 7 | | | | | | | |
| | | | | | | | 8 | | 9 | | | | | | |
| | 10 | | | | | | 11 | | | | | 12 | | | 13 |
| | | | 14 | | | 15 | | | | | | 16 | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 9 нумара**

Госць, дзень, мачаха, Тураў, шэсце, ямка.

Рашэнне: **Дзе кухараў шэсць, там нямачаго есць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 25.03 — 31.03

**(22.03. — 20.04.)** Заззяеш нейкім талентам, зловіш шчаслівую нагоду. 24-25.03. можа быць цяжка з тваімі нервамі. 27-31.03. абавязкова бывай у месцах, дзе можна пагуляць, наладзіць кантакты. Можаш там пазнаёміцца з кімсьці, з кім лады будуць на доўгія гады. Няма праблем, з якімі немагчыма справіцца. На працы ўдасканальвай планы і чакай нагод да дзеяння. Цукар можа быць ва ўсім, не толькі ў цукарніцы.

**(21.04. — 21.05.)** Шанцы на лепшыя адносіны. Няблага ў сардэчных справах. Але будзь асцярожны пры новых знаёмствах, не будзь лішне даверлівы. На працы знакаміта ўсё сарганізуеш сабе і іншым, але ўзнагароды прыйдзецца пачакаць. 25-26.03. не зважай на падказку добрага заробку, бо хутчэй тыя залатыя горы будуць міражом, або яшчэ і страціш. 27-31.03. можаш быць аслаблены і бездапаможны; тады можа наступіць крытычны момант для твайго здароўя, асабліва вельмі пільнуйся пры электрапрыборах. З большымі пакупкамі чакай да 31.03.

**(22.05. — 22.06.)** 25-26.03. разлука можа быць найлепшым выхадам. Зможаш шчодра адорыць іншых, асабліва дзяцей, але ведай, што больш чым падарункі цэняць яны час і ўвагу. Магчымыя непаразуменні ў пары, можа няма як паладзіць вашы характары? Можаш закончыць важны праект, але трэба будзе над ім яшчэ папрацаваць, прычым у чымсьці ўступіцца. Добры час на рэабілітацыю, паправішся. Ашчаджай! 27-31.03. можаш адчуць, што хочаш прабіць мур галавой.

**(23.06. — 23.07.)** 25-26.03. старайся запанаваць над сваёй злосцю. Будзеш упарты, можаш давесці да напружанасці. Пільныя справы не будуць даваць табе спакою, падзяліся імі з іншымі. У пачуццях старайся ўсё адрозніваць. 25-26.03. не апыніся ў неадназначнай сітуацыі. Можа прыйдзецца табе апекавацца чыімсьці дзіцём, кватэрай ці звярком. Пільнуйся за рулём на дарозе. Практыкуйся ў спорце ці фітнесе, старайся, каб рэгулярна.

**(24.07. — 23.08.)** Старайся не рызыкаваць. Выходзь з дому. 25-26.03. можа ў табе вызваліцца агрэсія і эгаізм, з-за квадратуры Сонца з Марсам. Дзякуючы парадам сяброў не зробіш тады памылкі. 25-26.03. не разлічвай на залатыя горы, бо ёсць такія, хто схоча цябе ўвесці ў зман і можаш прайграць больш чым заінвестуеш. 27-31.03. увядзі змены ў сваім выглядзе. І пільнуйся, каб чагосьці выпадкам не папсаваць.

**(24.08. — 23.09.)** Папярэднія страты можаш цяпер адрабіць. На ўсякі выпадак не інвестуй усяго на адну карту. 27-31.03. можа спазніцца рэалізацыя некаторых тваіх планаў. Прыглядвайся да таго, што ясі, бо пагражаюць табе пячайка, запоры, нястраўнасць, асабліва калі ты народжаны ў верасні. Старайся не есці мучнога, салодкага і салёнага; еж кашы, мёд, прыпраўляй зёлкамі.

**(24.09. — 23.10.)** З'яднаеш шмат прыхільнікаў. 25-26.03. ад кахання блізка да нянавісці. Можаш паддацца тады згубным спакусам! 25-27.03. лепш не стрыжы сваіх валасоў. Калі ўжо будзеш ведаць, на чым стаіш, кан'юнкцыя Венеры з Уранам 27-31.03. можа закалаціць вашай парай. У кашальку ў цябе цяпер будзе няшмат. Але ўсё ж 27-31.03. ажывіцца і асвяжыцца тваё пачуццёвае жыццё.

**(24.10. — 22.11.)** Плён прынясуць твае мастацкія зацікаўленасці. Лепшыя адносіны з блізкімі. Будзеш любіць і здабываць. 25-27.03. можаш парабіць парадкі ў сваёй душы і дома; можаш змяніць ці паправіць сваё жыллё. Варта змяніць цяпер спосаб харчавання. Можаш захапіць усіх зменай свайго іміджу!

**(23.11. — 22.12.)** 25-26.03. дэстабілізуючыя сітуацыі ў пары або сям'і. Бывай сярод людзей. Дасі рады сам з меншымі рамонтамі, не давай зарабіць спецам. Не выкідвай усяго, што прытрапіцца, каб не пазбыцца важнай сямейнай памяткі. 27-31.03. удачы ў каханні. Разлічвай на сваю кемлівасць і шчопаць шчасця.

**(23.12. — 20.01.)** 25-27.03. не зрабі сабе выпадкова крыўды; цяпер лепш не сядай за руль. Бярыся за працу, будуць карысныя сітуацыі, прыбыткі. З'явіцца надзея на змену працы або павышэнне, але не паказвай па сабе, што табе на гэтым моцна залежыць. Казярогі з уласнай фірмай могуць сустрэць несумленную канкурэнцыю; можаце нават заявіць на паліцыю пра чорны піяр, які яна будзе рабіць.

**(21.01. — 19.02.)** Смела плануй. Можаш шмат зарабіць і нават адкласці, хаця не перабольшвай. 27-31.03. перажывеш раман, аб якім ты нават не марыў! Могуць вызваліцца скрываныя пачуцці і падтарможаныя страсці. Звычайная сустрэча можа кончыцца ў пасцелі! Станам кашалька не турбуйся. 27-31.03. добра падзейнічаюць на тваё здароўе сучасныя метады лячэння і папраўы красы.

**(20.02. — 21.03.)** Разумна развяжуцца твае справы. Рамантычныя кліматы. Будзеш ззяць у кампаніі. На працы ўпарта кіруйся да мэты. Калі ты кіраўнік, не саромейся кантраляваць супрацоўнікаў. Ідэя на бізнес ці супрацоўніцтва можа паявіцца нават пры выпадковай размове. Рыбы з трэцяй дэкады павінны задбаць аб свой пазваночнік. 26-27.03. не страць важнай рэчы. А 27-31.03. можа табе прыйдзецца пазмагацца са страхамі і комплексамі. Нудна не будзе...

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

Новае выданне

# Па Прыпяці да радзімы Сяргея Грахоўскага

Я ўважліва і з вялікай цікавасцю прачытаў новую кнігу ніўскай журналісткі Ганны Кандрацюк „Па Прыпяці па Нобель". Шчыра прызнаюся, даўно я не атрымліваў такой прыемнай асалоды ад прачытанага, як пасля гэтай кнігі. Задумка ўнікальная. Кніга напісана добрай, сакавітай мовай, яна захапляе ад першых да апошніх старонак. Прачытаў кнігу Ганны Кандрацюк і падумаў: цікавае і разнастайнае, новае і захапляльнае знаходзіцца побач, вось яно — едзь, вандруй, пішы, фатаграфуй, распавядай.

Вядома ж, калі я вырашыў выказаць свае суб'ектыўную і аб'ектыўную думкі наконт гэтага выдання, то я павінен быць шчырым. Таму пачну па парадку. Пра назву кнігі. Эх, каб назоў кнігі быў такі, якім сваю прадмову назваў Яўген Вапа — „На родных аблоках да Прыпяці вытокаў", то ёй цаны не было б у базарны дзень, як кажуць беларусы. Але атрымалася, што назоў найцікавейшай кнігі па змесце і мастацкім дызайне старонак атрымаўся няўдачным. „Па Прыпяці па Нобель" — гэта не па-беларуску. Правільна па-беларуску будзе так: „Па Прыпяці — да Нобеля". І нават, калі б было гэта з моўнага боку правільна, то два прыназоўнікі „па" ў загалоўку зашмат. Калі аўтарка мела на ўвазе па Прыпяці па Нобель (паплысць па рацэ па Нобельскую прэмію), то таксама няправільна, бо тады трэба было так і пісаць: „Па Прыпяці па Нобельскую прэмію", але не па Прыпяці па Нобель.

Цяпер пра мастацкае афармленне вокладкі. Вельмі файны здымак на вокладцы кнігі. І, наогул, здымкаў у кнізе шмат, яны простыя, але вельмі дапаўняюць змест выдання. Так добра аўтарка апісала сваіх герояў, што чытаючы тэкст, хутчэй іх хочацца ўбачыць на фотаздымках. І вось яны — адзін, другі, трэці... Цёплыя, простыя, жыццёвыя, вольныя... здымкі, на якіх адлюстравана наша сённяшняя рэчаіснасць, нашы людзі і наш час. А праз 10-30 гадоў — гэта ўжо будуць рэдкія гістарычныя здымкі.

Дызайн і колер вокладкі мне не спадабаліся: атрымалася перамудранае зліццё колераў і літар. Сярод гэтых цяжкіх фарбаў маленькімі літарамі „плавае" прозвішча аўтаркі кнігі. Тое самае было і з прозвішчам Уладзіміра Хільмановіча на вокладцы яго выдатнай кнігі „Беларускае золата". Зайдзіце ў кнігарні Беластока і паглядзіце, якім шрыфтам набраны на вокладках кніг іх аўтары. Бывае, што прозвішчы большыя за назвы кніг. Дык чаго мы, беларусы, ставім мікраскапічныя прозвішчы на сваіх кнігах? Гэта ж таксама рэклама, рэклама не толькі кніг, але і прозвішчаў нашых журналістаў, публіцыстаў і літаратараў.

У прадмове да кнігі Яўген Вапа адзначыў, што „кожны, хто знаёмы хоць крыху з журналісцкай і кніжнай бібліяграфіяй аўтаркі, добра ведае, што менавіта падарожжы здаўна прыпісаны да ейнага жыцця і думання". І гэта сапраўды так. Ганна Кандрацюк умее не толькі цікава падарожнічаць, але яшчэ і найцікавей апісваць гэтыя падарожжы. Прыкладам з'яўляецца і яе новая кніга „Па Прыпяці па Нобель". Праца журналісткі настолькі цікавая і напоўненая рознымі фактамі, што па ёй можна праводзіць літаратурна-краязнаўчую канферэнцыю. А тэмы з кнігі самі просяцца для выступленняў. Гэта, напрыклад, паданні і легенды з кнігі Ганны Кандрацюк, ці звычаі, ці стравы і частаванне ў кнізе аўтаркі, ці замовы. Пра замовы, якія згадваюцца ў кнізе, размова асобная. Нават цяжка сёння ўявіць, як Ганне Кандрацюк удалося пачуць ад людзей замовы, якія не кожны раскажа, каб іх запісаць. Гэтыя рытмічна арганізаваныя творы формульнага характару, якім прыпісваецца сіла магічнага ўздзеяння для дасягнення розных мэт, людзі трымаюць у асабістай таямніцы. Па-народнаму розныя замовы ў розных мясцінах называюць і шэптамі, і малітвамі, і чарамі, і нагаворамі, і прысушкамі,




і адсушкамі, і лекаваннямі і г.д. Бабка Ярынка з Невіру — адна з гераінь Ганны Кандрацюк — умела лекаваць ці шаптаць, калі хто падарваўся пры цяжкай працы. Ад падрыву баба шаптала замовы. І аўтарка прыводзіць тэкст замовы. Далей, тая ж самая бабка Ярынка ўмела адводзіць пажары, шаптанне ад сурокаў і сполахання. І ўсе ў тым самым Неверы пра гэта ведалі. Шмат ад бабкі Ярынкі запісала народных замоваў Раіса Крат. Яна расказала і цікавую гісторыю пра свіней, якія захварэлі. Бабка параіла кінуць у яду чырвоныя вугельчыкі. На другі дзень свінні сапраўды ачунялі.

Прыгадвае ў сваёй кнізе Ганна Кандрацюк і пра шкодныя чары. Іх носьбітамі, як піша аўтарка, былі людзі пакрыўджаныя лёсам, калекі. І прыкладам можа быць расказ пра дзеда Флярка, якога ўсе вяскоўцы баяліся. Падобныя апісанні ў кнізе чытаюцца на адным дыханні. Па іх можна пісаць кінасцэнарыі і ставіць фільмы. А на старонцы 123 апісваецца, як баба Іра са стрыечнай сястрой хацелі зачараваць аднаго хлопца. Яны наскрэблі „шкуры з пяты і падсыпалі яе ў чай або ў гарэлку, падрыхтаваныя для кавалера". Але, каб гэта чарадзейнае пітво спрацавала, неабходна было яшчэ сказаць закляцце.

З кнігі Ганны Кандрацюк я даведаўся і пра тое, што на Палессі ведаюць дванаццаць відаў вятроў — гэта сайчук, штэмпер, муры, гыры і іншыя. А чым, напрыклад, адрозніваецца вецер ад ветраніцы? А тым, што накліканыя ветрам хваробы можна вылечыць, а накліканыя ветраніцай — не. Многія хваробы лечыць шаптаннем і баба Маша. Яна лечыць залатнік, замаўляе вецер і сурокі. Лечыць яна і жывёл. Самай праблемай заўсёды была і ёсць хвароба — гэта знікненне малака ў кароў. Са слоў бабы Машы, гэту праблему яна лечыць вадой, зачэрпнутай перад усходам сонца. Пасля дастае з печы дзевяць чырвоных вугалькоў, „кідае іх у ваду ды голасна адлічае лікі „ад канца". Аўтарка друкуе і тэкст замовы бабы Машы, якою можна вылечыць залатнік.

З кнігі „Па Прыпяці па Нобель" можна даведацца і пра расу: на Палессі лічаць ранішнюю расу гаючай, а вячэрнюю — шкоднай (гэта такая прыкмета).

Старонку 82 у кнізе я перачытаў некалькі разоў, а таксама параіў сваім сябрам, якія таксама не маглі ад тэксту адарвацца. Адзін нават прасіў сканаваць старонку. А на ёй ідзе размова пра палескую сталіцу бізнесу — Камень Кашырскі. Там цётка Ніна гандлюе „дзівоснымі бэткамі і зёлкамі", якія з'яўляюцца і лакальным рарытэтам, і рэліктам племянна-збіральніцкай культуры. Сярод гэтай культуры ёсць і грыб, які напамінае „складзены парасон", з доўгай белай ножкай". Яго трэба заліваць самагонкай, выстаяць дзевяць дзён і па кропельцы чысціць і рэгуляваць кішкі. А яшчэ ў гэтай цёткі Ніны ёсць свежыя смаржкі, пра якія яна сказала: „Калі накарміць імі мужыка, то цэлы дзень будзе гараць канём поле". А пра сохлую чаму жанчына сказала: „Гэта таксама лек на гэтыя справы".

Прыгожа і са смакам апісвае аўтарка кнігі і кулінарныя рэцэпты, якіх шмат у кнізе. Але гэта не проста рэцэпты, а падрабязнае апісанне гатавання страў...

Як бачыце, з кнігі Ганны Кандрацюк можна шмат чаго карыснага даведацца, занатаваць і запамятаць. Гэта своеасаблівая энцыклапедыя Палесся.

Вандруючы па берагах Прыпяці, Ганна Кандрацюк не мінала тых мясцін, якія былі звязаны са знакамітымі людзьмі — Тадэвушам Касцюшкам, Марыяй Радзевіч, Сяргеем Грахоўскім і іншымі асобамі. Ніколі не думаў, што беларускі паэт, вязень сталінскіх лагераў Сяргей Грахоўскі (1913-2002) нарадзіўся ў сяле Нобель Зарэчненскага раёна Ровенскай вобласці. Мне здавалася, што ён заўсёды быў з горада Глуска Магілёўскай вобласці. І самае важнае, што я даведаўся з кнігі Ганны Кандрацюк, гэта тое, што там, у Нобелі, ушаноўваюць пра яго памяць: і шыльда ёсць, і вуліца носіць яго імя. Сапраўды, Сяргей Грахоўскі родам з Нобеля. У аўтабіяграфічнай кнізе беларускіх пісьменнікаў „Пра час і пра сябе" (Мінск 1966, с. 129-130) ён прыгадвае: „У маёй метрыцы запісана: „Месца нараджэння — м. Нобель, Пінскага павета, Мінскай губерні". А ўяўленне пра тыя мясціны жыло ў памяці толькі па ўспамінах маці. Я іх слухаў, як чароўную казку, і часам пачынала здавацца, што сам бачыў вялізнае возера, пасярод яго доўгую пясчаную выспу ў густых прысадах, высокую званіцу белай царквы. Хоць нічога не бачыў і нічога не помніў... Тут 25 верасня 1913 года я і з'явіўся на свет. Бацька ў той час быў салдатам царскай арміі, а маці ў Нобелі знайшла прытулак у старэйшай сястры, якая служыла ў манапольцы...".

Прыемна, што Ганна Кандрацюк наведала родны Нобель Сяргея Грахоўскага. Я Сяргея Іванавіча добра ведаў, сябраваў з ім, перапісваўся. Ён мне распавядаў пра сталінскія лагеры, згадваў пра майго земляка-паэта Сяргея Дарожнага, які згінуў у далёкім расійскім Камсамольску-на-Амуры. Калі б Сяргей Грахоўскі быў жывы, то з вялікай радасцю і натхненнем прачытаў бы кнігу спадарыні Ганны.

Што мне яшчэ спадабалася ў кнізе, дык гэта тое, што аўтарка не мінала музеяў. І абавязкова нешта занатоўвала пра іх каштоўныя экспанаты.

Працуючы над кнігай, Ганна Кандрацюк шчыра закахалася ў Палессе і палешукоў, а найбольш у Прыпяць, якая пачынаецца за Ратнам, а больш дакладна, за сялом Камарова. Калі я чытаў „Па Прыпяці па Нобель," мне прыгадваўся таленавіты паэт і настаўнік з Рэчыцкага раёна Уладзімір Верамейчык (1937-1999). Магчыма ніхто так аддана і моцна не любіў Палессе і Прыпяць, як ён. А свой зборнік выбраных вершаў ён назваў „Клянуся Прыпяццю". Яго хрэстаматыйныя радкі запомніліся адразу:

Клянуся Прыпяццю — як іменем любімай,
Што я шапчу з лірычнага чаўна.
Клянуся Прыпяццю... А Прыпяць, як Радзіма,
Адна — у свеце. І ў мяне — адна.

Уся спадчына паэта — гэта гімн Прыпяці, Палессю, роднаму краю. Гімн узнёслы, велічны, урачысты, гімн, які спяваў чалавек, што добра ведаў гэты сусвет і цудоўна разумеў сутнасць радаснага і прыгожага ў жыцці на гэтай зямлі, дзе ўсё спалучылася, з'ядналася ў нешта адзінае, непадзельнае, дарагое. Ганна Кандрацюк сваёй фундаментальнай працай напісала свой гімн Прыпяці і Палессю. І вялікі дзякуй ёй за гэта.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

**Ад рэдактара.** Вельмі дзякую Сяргею Чыгрыну за змястоўную рэцэнзію кніжкі нашай рэдакцыйнай сяброўкі Ганны Кандрацюк-Свярубскай. Кожны аўтар мае права на свае погляды і думкі наконт выдання, загалоўка ці графічнага афармлення кніжкі. Дазвольце мне, як рэдактару, не пагадзіцца з Вашымі заўвагамі ў справе загалоўка «Па Прыпяці па Нобель». Менавіта такая фармуліроўка кансультавалася з моваазнаўцамі і карэктарамі кніжкі, якія такі варыянт палічылі найбольш супадаючым са зместам. Калі ідзе пра графічна-мастацкае афармленне, гэта справа індывідуальных эстэтычных выбараў. Аўтарцы і графічнаму рэдактару менавіта такая каларыстыка прыйшла найбольш даспадобы.

З павагай **Яўген ВАПА**

ISSN 0546-1960